**Регтание, ректанье** *наз. Рохканне.* алеѯандеръ рекль мужеве рицери мои намоцнѣишии, не смутѣтеся, бо ректаньем вепров роспорошимо слоны (Алекс, 30), потом коли ѹслышал регтанием [!] вепровъ трѹбление трѹбъ бубнов бримене, не боронячисе невымовне ѹтѣкали (Там жа).

**Регтати** *дзеясл. Храпці (?)* Дыша и регча [конь] попѣреть землю, иниже боитса егда звѹчитъ гѹкъ (Скар. К1, 47б).

**Регула** *гл.* рекгула

**Редити** *гл.* радити

**Редитисе** *гл.* радитися

**Редка I** *гл.* редька

**Редка II** *гл.* редко

**Редкий** *прым.* **1.** *Нешматлікі; які не часта сустракаецца.* тые дары были дороге редкіе и ѡславне (Валх., 60б), и сами редкий зъ нихъ въ селе показался (АВК, XVIII, 90, 1591); то барзо рѣдкій межи людми выстѹпокъ (Калiст, II, 182б), тогды любо редки зъ нихъ не ведалъ доскональ, але еднакъ вси згодне и одностаине твердятъ ее быть черницою (ИЮМ, VIII, 417, 1625), редки' человѣчески' рожа' бываетъ на светъ абы не был плачем прывитаны' (Зб. 259, 468)

**2.** *У знач. наз. Той, хто не часта фігуруе.* римское црствіе велми ѡпоустееть и скажено боудет и ѡбнищаеть такъ редъкіи оупоминати его боудеть (Сівіла, 6), Плакатисѧ велить Аплъ богатымъ, але рѣдъкого знаити, которыи бы плакалъ (Будны, 63–63б); да рѣдки старости доилеть недобре оумреть (Неба, 84б), редки' сеѧл бо насенѧ ярнаго кажды' мало мелъ (Барк., 167), рѣдкій ѡ дню сѹдном в'спомнит' (Мак., 138)

**3.** *Негусты, рэдка размешчаны.* за гребень костеный 7 грошей, за други гребень рѣдъкій полъ 2 гроша (АСД, VII, 20, 1538–1539), зоубы ж правыи и редкіи, оуказъ на разоум и вѣрность (Арыст., 177), Атыльлѧ ... был ... бороды рѣдкое, носа закрывленого (Атыла, 179). *Параўн.* радкий

**4.** *Нячасты.* рѣдкимъ з людми ся виданемъ ... роскошъ так ѹгасилъ (Пралог., 558б).

**5.** *Вадзяністы.* тотъ жидъ аптыкаръ третюю судину зъ медомъ мякимъ и рѣдкимъ взялъ до себе, знати же свежый медъ (АВК, XVIII, 348, 1646), ѡбыча' в тых краях таковые редкие речи во скураном мехѹ носити (Зб. 752, 69)

**Редко, редка** *прысл. Нячаста (па з'яўленні, па паўтаральнасці).* дивне и редко чоудеса тамото черес земли и черес море пренесены и приношены (Валх., 40); того то люду землѧ лежи

в горах межи лесы и боры гѹстыми и темными а редко ижбы в нем где мало пол налезъ (Троя, 13), рѣдко не въ всих станехъ наидуется злодѣиство (Будны, 88б), хитрешые редка або николи не выходют с косте (а (Наб тур, 21), лекарство, которог кгды хто редко въ мерѹ и с потребы ѹживает помогает смѹ (3б 261, 217), дрѹгие рѣдко по литовски ѹмѣют (Стрыйк, 518), рѣдко хто тебе вытерпитъ (Мак, 256), В законе человек живет чысте, ѹпадает редко, повстает прѹдше (3б. 255, 379б), межы рожоною братію такое млсти сполное редко было нати (3б 752, 216) *Парайн* радко

**Редкость** *наз* *Рэдкасць* Подобенство *wд* двох лихтарwвъ, тамже, *wд wт*ца двохъ сновъ, маючого, тві, *wд* рѣдкости перел, тке камени дорогоцѣнныхъ, ткв (Мак, 400)

**Редно** *гл.* радно

**Редный** *прым* *Зроблены з радна* он, Ивашко отнял с тыми козаками сетеи пят два мешки редных, рогожу (АВК, XXXIX, 558, 1579).

**Редовый** *прым* *Які ўтварае рад* от тої конца у пети шнурахъ около еребины четвертыи конец редовыи усыпан (АВК, XXX, 473, 1613).

**Редочный** *прым* *ад* редька wлеи морковныи wлеи редочныи, кождого по полторы гривенки (Арыст, 215)

**Редшей** *прысл* *Радзей* красти, и фалшиве свѣдчити, рѣдшей межи людми видимо, и не в многихъ (Калнст, II, 182б)

**Редька, редка** *наз* *Рэдзька* по семѹ же мнится зелиа wдно якобы редка дикаа но лютыи wкормъ *wн* оуморжеть (Арыст, 204), репы або редки бочка (Ст 1588, 514), пост великиі так постил (пише прокопиі) два дни ничог не ядал, а третег дня редки або свекли (Бельск, 321б), Цыбули, салаты, петрушки и кропу, капусты, редки, репы и барщу робленого, за все заплатили золотыхъ два (ИЮМ, IV, 135, 1686), Цыбуля, редка, петрушка, кропъ осм. д (ИЮМ, IX, 178, 1692), На снеданне до ратуша рыба, хлѣба, редка, пиво (ИЮМ, XVIII, 63, 1710), для п Фронциевича, сулии Орш, куп цыбули, петрушки, редки (ИЮМ, XXI, 27, 1711).

**Реентъ** *наз* 1. *Начальнік канцылярыі, справавод* каноникъ Виленский, реентъ канцелярией великой великого князства Литовского (АВК, IX, 554, 1671), пану Яну реенту на инструкцыю и на иншые потребы мескіе купили папиру доброго либру (ИЮМ, I, 22, 1679), Гды знову ходили до гроду въ канцелярыю и заносили процесъ на поборцовъ о затримане кви-

товъ дали реентови тынфа (ИЮМ, VIII, 111, 1691); пану реенту оршанскому за мембрамы, за доводы и за деветь печатей дали талеровъ битыхъ чотыры (ИЮМ, XI, 110, 1697); За розказанемъ пана войта, реенту оршанскому купили фунтъ перцу (ИЮМ, XII, 23, 1698); За присланемъ слуги одъ реента оршанского до п войта горелки обецаней, теды, зъ розказаня п воита узели у вечоръ кварту перегону (ИЮМ, XIII, 112, 1699), за розказанемъ п воита, для реента оршанского . справили обелъ у дворника Феодоровича (ИЮМ, XIV, 31, 1700)

2. *Кіраўнік царкоўнага хору* Коту, реенту, за спеване на тотъ часъ, ситницу, на столъ соли, оливы, четыры свечы (ИЮМ, VI, 158, 1689).

**Реестрикъ** *гл.* реестрыкъ

**Реестровый** *прым* *Рэестравы* справа, съ порадку реестърового, ку отсуженью нашому приточала (АВК, XVIII, 236, 1615), съ порадку реестрового ку суженю припала справа инъстыкгатора (ИЮМ, X, 216, 1647), с порадку реестрового ку суженью припала справа пана Богдана (АВК, XX, 363, 1664); с порадку реестрового ку суженью припала справа превелебного Коленды (АВК, III, 76, 1672)

**Реестръ, раистръ, регестръ, реистръ, рейстръ, риестръ, рэйстръ, рээстръ** *наз* *Рэестр* раистръ кни*г* пръвых правых крол*я* казимера ѡ оуставлени*и* пра*в* (Віл , 5б), Реестръ почагъ писать, какъ прiехалъ есмо до господара короля (КЗ, 286, 1488); Въ то' скрынце были речы матки моее Ре'стръ пана Сѡлътана скаръбѹ, што ѹ Вильни былъ пры немъ (КСД, 873, 1516), мают ѡные ѡпекунове подле ѡныхъ реистро*в* все в целости подать (Ст 1529—Ф, 57), шкодъ своихъ, меновите списаныхъ, реистръ на праве положити хочу (АВК, XXI, 32, 1555); таковых гэ*т*манъ на*ш* ѹв особливы' рээстръ маеть казати ѹписати (Ст 1566, 23), ꙗко су*д*ꙗ такъ по*д*судокъ и писа*р* за три*ж* дни мают приехати и списати в рэ'стръ позвы (Там жа, 46); показала реестръ, на котором было написано шацунъкомъ павъ шесть по тры копы грошеи (АВК, XVIII, 208, 1582); передъ нами судьями прыточыласе справа зъ регестру за позвы (АВК, XX, 209, 1609), стал з ѡного писара ре'стровъ несправе*д*ливых, ка*н*цлѣръ христовъ и писаръ дѹха стого (Зб 82, 1576), Водлугъ старого риестру дали готовыми грошми золот пять (ИЮМ, II, 27, 1683) *Параўн* леистръ

**Реестрыкъ, реестрикъ, реистрикъ, рейстрыкъ** *наз.*, *памянш ad* реестръ за речи, которых реистрык списавши покладала,

ей не мало винно на немъ зостало (ИЮМ, XXXII, 215, 1577); помененыхъ речы водлугъ того реестрыку, теперь тутъ поданого, побравшы, не ведеть где ихъ поделъ (АВК, XX, 167, 1601); юко се з реестрыкꙋ старого . списанꙋ листовъ по смерти того наместника показꙋетъ таꙗ данина (ККСС, 786, 1615); долги водлуг того реестрыку зыщы собе (АВК, XXXIV, 197, 1661), тогды дей есми переписавши на реестрикъ, што зъ скры ни побрано (АВК, XVIII, 440, 1663), За писане реистриковъ розныхъ дали золотыи одинъ (ИЮМ, II, 201, 1684)

**Реетися** *гл.* реятися

**Режа** *гл.* реза

**Режемый** *дзеепрым ад* резати *ў* 3 *знач* цри . велѣли ножи рѣзати тѣло ее стаꙗ же ѡлеѯандрѣꙗ рѣжема ни ѡдинова к нимъ не ѡтвещала (Чэцця, 186)

**Режъ** *гл.* резъ

**Реза, режа** *наз* 1. *Тое, што і* резъ *у* 1 *знач* лепъшии кгрунтъ тихъ бояръ примерилъсе до резъ тихъ селъ взглядомъ простыхъ кграницъ (АВК, XXIV, 198, 1558), нехаи деи еще тамже з одного будуть ему две режы приданы, жебы волоку свою спольна мелъ (АВК, XXX, 3, 1586), першая рѣза моркговъ десеть, гдѣ церковь и попъ сѣдить (АВК, II, 19, 1604)

2. *Тое, што і* резъ *у* 2 *знач* Пеперу резу до Могилева купили за золот девять (ИЮМ, I, 250, 1682), купили паперу зъ крамы пана Игнатовича, резу одну на мескую потребу (ИЮМ, IV, 110, 1686).

**Резане** *гл.* резанье

**Резанецъ** I *наз Кастрат, пакладанец* ѡтдадꙋт еи до дому женского под рꙋку егеꙗ резанца котори есть сторожем бѣлых голов царских (Біблія, 573); росказал крол резанцом своим, абы привели кролевꙋю к немꙋ (Бельск , 160б); потом бꙋдꙋчи ꙗк резанец не моглъ быт до плодꙋ способны (Стрыйк , 415б); Каженик Валашаный человѣкъ зри евнꙋхъ, рѣзанецъ, валахъ (Бяр., 63), даниил был велми вдꙗчным и милым во ѡчах малꙗзара резанца того, которыи их мел в дозреню своим (Жыц св., 26); Приведено теды . феѡдора дарꙋ бжого полного, а незвѣтꙗжоного воина хрстового, а тѣломъ резанца до царꙗ самого (Пралог, 494б); Резанцѡм бенкартѡм и иновѣрцѡм в дом бжіи не ходить (Хран , 156б); то то ест резанецъ, котори мене по гдꙋ бгу злѣчил (Зб 82, 301)

**Резанецъ** II *наз. Разанец, жыхар Разані* довѣдаютца того достаточнѣ его подданыи резанцы (АЗР, II, 114, 1522); где тепер

московские и бѣлорѹские народы мешкают, каневцы, бѣлоцерковцы, пѹтивлѧне, резанцы, и черниговцы (Стрыик., 428).

**Резание** *гл.* резанье

**Резанский, рэзанский, рязаньский** *прым* *Разанскі.* кнѧзь Шлегъ Рѧзаньскии приидоша ко Смоленьскѹ (Увар., 97—98), прыслал к нему кнѧз Рэзанскии Иван будучы ѹ старости своеи просечы его абы до него ехал (Рач., 313), лежит резанское великое князство межи шкою и доном реками великими (Стрыик., 536—536б), з Мамаемь зьедночился Олег кнзь резанскии (Мам., 173).

**Резаный** *дзеепрым* **1.** *Ад* резати *ў 2 знач* дрѹгих бито и носы или ѹши рѣзано (Бельск., 274б—275), перьве шблѹплени сѹт, потомъ ѩзыки их скроз горьло вытѧгнено и резано (3б. 82, 67).

**2.** *Ад* резати *ў 3 знач* потом черево ее каменемь шстрым рѣзано (3б. 752, 21—21б).

**3.** *Ад* резати *ў 5 знач* В законѣ было нѣмое бито на офѣрѹ, которое где бы не рѣзано, неприемна бы была офѣра (Мак., 372), Требище ... мѣстце где офѣры рѣзано [Бѹ] штдавано и палено (Бяр., 217).

**4.** *Ад* резати *ў 6 знач* шн же чинить образы резаные з древа (Скар. IC, 62), назавтрее тое дѣтя зъ земли выгребли и оныи крижикъ на чолѣ рѣзаныи быти поведали (АВК, V, 6, 1577), спѣваючи шны ѱалом да постыдѧтсѧ нечестивыи иже резаным богом кланѧютсе, и з своих се болванов хлюбѧт (Бельск., 279б); Сам тѹлобъ его был з дерева мистерны рѣзаны (Стрыйк., 44б), ѹчинили голца при горѣ хорив, и кланѧлисѧ болванови резаному (Пс. XVII, 114).

**5.** *Пакладаны, кастрыраваны* Ендреи ... продал коника своего властного, подездка ... не резаного (АВК, XXXIX, 12, 1579); kon nerezany pod korolem u hrazi zapadel (Бых., 547).

**Резанье, резане, резание** *наз* **1.** *Рэзанне (як праца)* вси сѧ жалують на вашихъ w своихъ великихъ школахъ и соромотъ и боювъ невымовныхъ и бородъ рѣзаньѧ (ПГ, II, 16, 1466), о такомъ щасливомъ и добромъ лѣкарѹ, который не рѣзаньемъ, не паченьем, а нѣ троунками, але самымъ тол'ко словомъ лѣчитъ (Калiст, II, 18б—19); Мwѵсеи оны вси речи штдалъ до роботы Веселеилѹ ... наполненѹ дх҃а божегw и всѧкои наоуки, кѹ вымышленью и оучиненью роботы, в золотѣ сребрѣ и мѣди, и в резаню каменѧ (Хран., 112б), Рыдель купили до резаня дерну (ИЮМ, III, 155, 1685). Пилу купили теселскую на резане брусовъ (ИЮМ, VII, 232, 1690).

**2.** *Тое, што зарэзана.* мдрсть .. заколола рѣзанье свое и з'мѣшала вино свое теж оурѧдила стол свои (3б 262, 97б).

**3.** *Выява, гравюра* боги их и резаниѧ их сказить (Скар ДП, 31); виделъ у свирне . тувальни две вышиваныхъ, одьна на флямскомъ полотне чорнымъ едвабомъ з резаньемъ (АВК, XXII, 155, 1555—1566); послал есмъ тобѣ мужа ростролного котори' ѹмѣет рѣзати всѧкое резане (Бібліѧ, 414); пошли мнѣ чловка оумѣетнаго которыи бы оумѣлъ рить резаньѧ (Хран., 292б—293).

**4.** *Абразанне (абрад)* Стефанъ, панъ нашъ милостивый, рачилъ имъ жидомъ подтвердити привилья около сакраменту и рѣзанья дѣтей хрестıанскихъ (АВК, V, 213, 1576)

**Резати, резать** *дзеясл* **1.** *Зрэзваць* режоучи хворостъ ис деревьѧ слали на змли (Пак Хр, 17), кого бы по'мано жито ѹ пражмо режѹчы под колос (Ст 1566 1, 105), д'рѹı ие пакъ гольцы резалı з' деревъѧ, и посьтлали по дорозе (Цяп, 59), абы на пожни коней не пущали и травы не резали (ИЮМ, V, 55, 1688).

**2.** *Абразаць* мы спытали того Сташа коли ты поималъ того члвка, лицовалъ ли еси того коня, рѣзалъ ли еси ѹхо (КСД, 40, 1510), коли . до лазни поидешь не вымываи собе оуши или волосовъ не режь (Неба, 76), своим хрстиѧном носи и ѹши рѣзал (Бельск, 360б); татарове ѧ мѣхов великих ѹ позабиваных люде' ѹхъ нарѣзали, по ѡдномѹ ѹхѹ в каждог забитог рѣжѹчи (Стрыйк., 497), сѹдѧ коли ѡна еще статечъне'шаѧ была, рѣзат еи перси казал (3б 82, 36б)

**3.** *Наносіць парэзы, раны, знакı* Цри велѣли ножи рѣзати тѣло ее (Чэцця, 186), ѡнъ рекъ не мицовалъ есми того коня, а ѹха есми не резалъ (КСД, 40, 1510), Не будете резати тела, и ни же ѧкого знаменѧ или ѧзвы ѹчините на собе (Скар. КЛ, 37б), жалобу нашу доносимъ на мѣщанина мѣста Полоцкого Василя Брикуна .. пришодши на Великдзень свята Руского зъ вулицы рѣзалъ стѣны умысломъ (АСД, I, 339, 1643).

**4.** *Кроіць.* режучы хлѣбъ упустила нароком под столъ нож (Бава, 137); наняли человековъ дванадцать дернъ резать (ИЮМ, III, 148, 1685), грабари въ полю дзıорна резали, человекъ деветь, на день по осм. осмнадцать (ИЮМ, V, 151, 1688), Што дернъ режутъ пяти человекомъ, за дни два дано золот. (ИЮМ, VI, 198, 1689); замковые почали были сеножати на прíйме резать на дернъ на валъ (ИЮМ, VIII, 99, 1691)

**5.** *Забіваць чым-н. вострым.* Аг҄неца . обычаи естъ резати за грехъ (Скар. КЛ, 27б); людъ ... побрал ѡвцы волы и буивовы, и рѣзали на земли и елъ людъ (Біблія, 322); яко-жъ передо мною вознымъ и передъ тою стороною шляхтою опытъ былъ, хто бы того детину резати мелъ (АВК, XVIII, 197, 1603); жылова, которые также быдло перекупуючы, на продажъ режутъ (ИЮМ, VIII, 371, 1621); Рѣзати потреба и ѡфѣровати баранка (Мак., 367).

**6.** *Выразаць, прыдаваць форму.* он же режет҄ драгое камение (Скар. ІС, 72б), ваѧтель — тотъ которіи рѣжет печати (Зіз., 24), послал есмъ тобѣ мужа .. котори҄ ўмѣет рѣзати всѧкое резане (Біблія, 414), Ваѧю Рию, рѣжѹ, выдовбѹю (Бяр., 12); змовили пилниковъ чотырохъ резать тарчыцы (ИЮМ, X, 152, 1695).

**Резатися** *дзеясл. ад* резати *ў 3 знач.* кричали суть гласомъ великим҄ и резалисѧ ножми по обычаю своему (Скар. ТЦ, 170б), рѣзалисѧ водлѹгъ обычаю своеıѡ нож҄ми, и сѣклисе бичми, ажь се кровю ѡбливали (Хран., 311б)

**Резать** *гл.* резати

**Резвость** *наз. Жвавасць.* нѣтъ володителѧ въ днь смртныи а нѣтъ попѹщеніа на воинѣ а не збавить рѣзвость и гнрдрѧ своего (Зб. 262, 90).

**Резвый** *прым. Жвавы.* рѹка рѣзвых зволодѣеть а л҄стиваѧ бѹдеть в роботѹ (Зб. 262, 99), хто родитсѧ тоѧ звѣзды бѫдеть черменъ, а возрастом высокъ, а резвъ (Неба, 66)

**Резегноватися** *дзеясл. Адмаўляцца ад спадчынных правоў* регестра аппробоване святой памети епископа Потея судовне доводыли, болше тежъ отца протопопы терпѣти не хотячы, овщемъ абы ся отъ церкве пренеслъ и оной резегновалъ (АСД, I, 279, 1634).

**Резецъ** *наз.* **1.** *Разец (рэжучы інструмент)* видѣлъ есми ... теслу, рѣзецъ (АСД, I, 181, 1590)

**2.** *Разец, пярэдні зуб у чалавека і жывелы* мечи зѹбы его и рѣзцѣ членовыи его ѣсти оубогихъ ѿ земли и нищих ѿ чл҃ковъ (Зб. 262, 109).

**Резидевать** *гл.* резидовати

**Резидентъ, резыдентъ** *наз. Упаўнаважаны прадстаўнік* товарышу его крол. млсти, который проводилъ москаля отъ резыдента зъ боку кролевского подьячого, до царя, дано на страву зол. шесть (ИЮМ, V, 94—95, 1688), у Шункову каменицу куп. дровъ возы 3, чекаючы его милости п. резидента, за 1 зол. 15 осм

(ИЮМ, XVIII, 118, 1710), 3 роск п войта, п Ничевичу, слузе п резидента, за осимъ мерокъ овса, што взели Москали, заплатили (ИЮМ, XXI, 12, 1711)

**Резидовати, резидевать, ресидовати** *дзеясл Знаходзицца* панове обыватели воеводства Полоцкого не могучи сами вси съ певныхъ причинъ резидовати .. згромадившисе на соимикъ громничный до Полоцка, ужили вси одностаине прозьбами своими мене абыхъ я въ особѣ всихъ ихъ милости тутъ въ Полоцку перемешкивалъ (АВК, VIII, 512, 1634); его милость въ миляхъ кольку десять отлегломъ ресидовалъ, зачимъ же на собѣ, але только врядннку и тивуну своему Новодворскому до присеги на знесенье того декрету а невѣдомости о позвѣ приповѣдалъ (АВК, XV, 64, 1653), при зерваномъ любъ скончономъ сеимѣ въ Супраслю, альбо тамъ, гдѣ щастливе резидевать будемъ (АВК, III, 72, 1670), также вспольне вси обжалованые резидуючы, спендоры забраные способомъ злодѣискимъ, розне перевозили (АВК, V, 78, 1695)

**Резидуючий, резыдуючий** *дзеепрым ад* резидовати то все чинечи на великии контемтъ превелебного ксендза и . отцовъ Базылиановъ, въ томъ конвенте резыдуючихъ (АВК, I, 330, 1666), декретъ арцибискупа лекгата столицы апостольскои, счастливе въ Коронѣ польскои и князтвѣ Литовскомъ резидуючого зашолъ (АВК, XV, 325, 1673)

**Резка** *наз , памянш. ад* реза *ў* I *знач* все тое поле на трое роздѣлено, гдѣ тежъ и панъ Солтанъ рѣзку маетъ (АВК, VI, 182, 1599), Поповымъ дѣтемъ, кгды лѣтъ доростутъ, зять мои Венцлавъ маетъ дать копъ десять грошеи, рѣзку поля (АВК, VI, 243, 1624).

**Резникъ** *наз Разнік, мяснік* съ тыхъ рѣзниковъ, которые въ мѣстѣ живуть и мяса продають, тотъ доходъ околничии бирали (АЗР, I, 361—362, 1505), зъ ятокъ мясныхъ маетъ давати кождый рѣзникъ и кождого торгу по плечу мяса бараньего на дворъ нашъ (АЗР, II, 153, 1523), резники быдла нездороваго на мясо не били ани продовали (СДГВ, 57, 1536); резники, кожъдыи, того ремесъла ужываючы, одинъ грошъ виненъ дати (КПД, 594, 1558), въ томъ мѣстѣ Оршаньскомъ естъ рѣзники, або месники (АЮЗР, I, 252, 1594), одъ рѣзниковъ въ кождый рокъ по каменю лою повинни давать (АВК, XIV, 623, 1599); мы судъ .. навезки ему яко ремеснику резнику три рубли грошей вказуемъ (АВК, I, 261, 1613); Ухвала всихъ рѣзниковъ, абы жаденъ быдла не куповалъ въ домахъ, але въ ринку

(АСД, I, 320, 1640), отвели вола живого на подарокъ велможному пану Воеводе, купленаго отъ Семена Ботвинки резника (ИЮМ, IV, 126, 1686), продали коня сивого, купленаго отъ резника Голопуза (ИЮМ, XIII, 5, 1699)

**Резница** *наз. Разница, бойня* домъ зъ пляцомъ и зъ будованемъ, тутъ, въ месте Могилевскомъ лежачій въ рынку могилевскомъ, объ межу зъ одное стороны Ѳедора Белицкого, а зъ другое рынку местьского, отъ резницы местское (ИЮМ, IX, 317, 1637).

**Резницкий, резницский** *прым ад* резникъ Хветко Петровичъ, староста резницъски, жаловал на учстивого Якова (АВК, XXXIX, 114, 1578), для перестереганя вшелякихъ справъ нашыхъ резницкихъ придали есмо ему, старосте нашому, чотырохъ товарышовъ своихъ (ИЮМ, VIII, 371, 1621), Зъ ятокъ резницкихъ взглядомъ полокотщыны дошло намъ шафаромъ золот двадцать пять (ИЮМ, I, 13, 1679), дошло отъ пана Романа Голопуза цехмистра резницкого золотыхъ двадцать пять (ИЮМ, II, 9, 1683); одебрали цыншу зъ ряду резницкого отъ цехмистра Никиты Белаго золотыхъ двадцать пять (ИЮМ, III, 9, 1685), Цыншъ з раду резницкаго (ИЮМ, IV, 267, 1688), Цыншъ зъ ятокъ резницкихъ (ИЮМ, VI, 14, 1689), Зъ раду резницкого дошло зол двадцать семъ и осм пятнадцать (ИЮМ, XI, 17, 1697), Зъ ряду резницкого, отъ цехмистра Грыгоріа Бутомы отобрали цыншу за рокъ (ИЮМ, XIII, 13, 1699)

**Резницство** *наз. Прафесія разніка* ему терпел есми до тых часовъ затым, же он зо мною в одномъ товарстве былъ, яко в резницстве (АВК, XXXIX, 476, 1579), каждыи таковыи, хто бы тымъ резницствомъ нашимъ гандлевати мелъ, маетъ урядъ нашъ мескій поеднати (ИЮМ, VIII, 372—373, 1621)

**Резничий** *прым ад* резница заказуем, абы нихто в Полоцьку, так бояр, как мещан, яток резничих, то есть мясных, ку своему пожитъку не мял (ПГ, III, 56—57, 1509)

**Резничое** *наз. Пошліна ад разніц* врядъ мѣстскій Пиньскій тые помѣненые платы роковые, тежъ помѣрное и рѣзничое маетъ на нихъ завжды самъ выбирати (АЗР, IV, 13, 1589), арендовалъ есми певные пожитки то есть помѣрное, важное и рѣзничое отъ вшелякихъ мясъ (АСД, VI, 65, 1604)

**Резня** *наз. Тое, што і* резъ *у* 1 *знач* Ланы Рѣзни, волоки, лазы (Бяр., 69).

**Резовый** *прым.* ◊ Х л е б ъ  р е з о в ы и *гл* хлебъ

**Резоемецъ** *наз. Ліхвяр, хабарнік.* резоемци црства нбсного не наслѣдꙗт (Чэцця, 266).

**Резоемство, резоимство** *наз. Ліхвярства, хабарніцтва.* Резоимъства и граблѣныꙗ ѡбегаимо (Чэцця, 163), Милостыню нищимъ по силе своеи даимо. резоемъства не примаимо (Там жа, 298б—299). *Параўн.* резоиманье

**Резоиманье** *наз. Тое, што і* резоемство. ѡтогнала еси всѣми злыми дѣлы ... злосердъствомъ резоиманьем (Чэцця, 353б).

**Резоимство** *гл.* резоемство

**Резольвоватися, резолвоватися** *дзеясл. Вызначыцца.* не мѣй за зле, же тежъ сꙗ твоимъ возвавши тебе и з собою в товаришство, тымъ пилне присмотрѣватисꙗ боудемо, а то длꙗ того, абысмо сꙗ в томъ резолвовали, або розвꙗзали (Апакр., 169б); Позваные, за тымъ всказомъ долгу, резольвовались, ижъ грошеи готовыхъ не мають допущаючи интромисии въ добра свои (ИЮМ, IX, 331, 1637).

**Резонъ** *наз. Довад.* но его милость ... не хотѣлъ принимать и слушать нашихъ справедливыхъ резоновъ (АСД, II, 31, 1621).

**Резорвати** *дзеясл. Тое, што і* розорвати *ў 1 знач.* зламал нерозвꙗзные перековы резорвал помоцю непереможни моци (Пак. Хр., 29б).

**Резумный** *гл.* розумный

**Резъ, режъ** *наз.* **1.** *Участак зямлі, надзел.* въ которомъ резе у каждомъ поведели быти по полторы волоки (АВК, XVII, 425, 1560), тыи земли межи ними наполъ есмо поделили, десеть резовъ досталосе пану Федору (АВК, XXII, 439, 1570); на першом местцу тры резы селища з выгономь подле резовь пана Горностаиского, в которих суть выделены липы, сажовка, к тому сад, што в тые режы зашол (АВК, XXX, 72, 1590), я своего грунту рѣзовъ тры удѣлити повиненъ буду (АСД, I, 247, 1612), на четвертомъ мѣстцу и врочищу, на двухъ мѣстцахъ у Воронева рѣзы два, у кождом рѣзу поля съ пробками лѣсу (АВК, II, 56, 1628), За которые земли ихъ есть имъ дана и заведена отъмена ... резовъ зуполныхъ два по моркговъ одинадъцать (АВК, XXIV, 495, 1665). *Параўн.* реза *ў 1 знач.*, резня

**2.** *Мера паперы.* Паперу доброго резъ до канцелярыей (ИЮМ, V, 9, 1688), купили ... паперу доброго резъ целый (ИЮМ, VIII, 133, 1691), Простого паперу купили цалыи резъ (ИЮМ, IX, 56, 1692); купили резъ паперу доброго на разные потребы меские (ИЮМ, XI, 114, 1697). *Параўн.* реза *ў 2 знач.*

3. *Ліхва, працэнты* дыявол . навчил ихъ .. посоулоиманию рѣзомъ лѣхоиманию (Чэцця, 251б); Да не возмеши ѡт него резу и ни росту, толико тое еже позычиши ему (Скар. К.1, 49), хто множит имѣнье свое лихвою и рѣзом томѹ што млстивъ оубогим зберетъ емѹ (Зб 262, 107б), пятнадцать гроши на немъ ся еще было зостало, ино дей онъ въ мене отъ того великии резы бралъ (АВК, XVII, 162, 1539—1540); Крадуть лихвари, котори взаем' гроши дают, але ѡт них гостин'ци або резъ, то есть лихву беруть (Будны, 90)

4. *Разрэз* ведлугъ его указу Данилина, поступили тымъ же пилникомъ отъ резу платить по осмаковъ двадцать (ИЮМ, IV, 235, 1685) *Параўн* разъ IV *у 2 знач*

**Резывати** *дзеясл , шматкр ад* резати *ў 5 знач* жидова завжды на пасхоу бараны рѣзывали (Чэцця, 169б)

**Резыдентъ** *гл.* резидентъ

**Резыдуючий** *гл* резидуючий

**Резыкгнацыя** *наз Адмова* Только за резыкгнацыю и прыбудованье своихъ выкладовъ огульне на золотыхъ пять сотъ, абы вернули акторове, просилъ и домовлялся самъ (АСД, I, 279, 1634).

**Резь** *наз* 1. *Рэзь (у жываце)* Колитва, Ісак' сх мд҃. рѣзь (Бяр., 65).

2. *Заразанне* если што правдивого увѣдають, заразъ одинъ другого яко на рѣзь выдають (АЮЗР, I, 286, 1598), Далъ еси нас ѩко ѡвци на рѣзь, и роспорошил еси насъ межи народы (Пс. XVII, 20б—21).

**Реиментаръ** *гл* региментаръ

**Реиментовати** *дзеясл Кіраваць* таѧ рѹка бга и чл҃ка досконалого сама реиментует в пѧти столицах свѣта тог (Дыяр., 173б).

**Реиментъ** *гл.* региментъ

**Реинъ** *наз Прадстаўнік старажытнага народа* Аскеназы грекове реинами зовѹтъ, рифаты пафлюгонами (Выкл , 10)

**Реистрикъ** *гл.* реестрыкъ

**Реистръ** *гл.* реестръ

**Реитария** *гл.* рейтарыя

**Реитися** *гл.* реятися

**Рейкойме** *гл.* рукойме

**Рейментаръ** *гл.* региментаръ

**Рейспондовати** *гл* респондовати

**Рейстръ** *гл.* реестръ

**Рейстрыкъ** *гл.* реестрыкъ

**Рейтарский** *прым. ад* рейтаръ панъ Друкъ — ротмистръ его королевское милости рейтарский . передъ нами до права не становилъ (АВК, XV, 212, 1667)

**Рейтаръ** *наз Коннік (кавалерыст)* Рейтаромъ и гайдукомъ королевскимъ . выдали золот шесть (ИЮМ, I, 250, 1682); Реестръ выдатковъ розныхъ на прыездъ зъ войскомъ на жолнеровъ, подарки, поклоны грошми, страве, такъ на саме особы и офицеровъ, яко на рейтаровъ, розныхъ слугъ (ИЮМ, XIII, 141, 1699) *Параўн* райтаръ

**Рейтарыя, рентария** *наз Коннікі (кавалерысты)* жыдовъце заплатили за медъ, который выпила реитарыя енералская, стоячы господою, гарцы чтыры (ИЮМ, XIII, 28, 1699). Для его реитарии человековъ 6, куп рыбы, хлеба рез булка 11 осм. (ИЮМ, XVIII, 104, 1710).

**Река, рэка** *наз* **1.** *Рака* придатъ есми стму Ион на Оуле реце землю з бортью (ПГ, 1, 42, 1381), кнзь великыи кестȣ тии поиде к рецѣ велии (Віл , 442), во ιωрдане реце хсъ крищон был (Пак Хр , 276); хто бы езами албо млынами гатми мостами рэки портовые гамоват (Ст 1566, 51), з великихъ морозов река днепръ был замерзъ (Барк , 164), где река вилна в᾽ вилию впадает (Стрыйк., 537); з воды а меновите криницы малое великое реки бывают (Зб 259, 524), вода без жадных приправ᾽ любъ з᾽ морѧ, люб᾽ з᾽ рѣки взѧтаѧ (Зб вып , 8). *Параўн.* рака 1.

**2.** *// перан Вялікая колькасць, няспынны паток чаго-н* ιако же рече писаніе, рѣкы ωт чрева его истекуть воды жывы (Будны, 234); кров реками тече ωдно вам моеи недостало (Бельск , 89б); Штож тогды оучинимо, кгды южъ страшный оный трибȣналъ засѧдетъ, а мы станемо перед нимъ трепетни, коли рѣка огнистаѧ потечетъ (Калист, I, 22), Несходными горами сȣть аффекты, през᾽ которыхъ срωдокъ, смоковъ ιадовитыхъ, гадовъ и робац᾽ствъ, рѣки выплываютъ (Мак., 162), к᾽ собѣ пришедщи, всѣмъ тѣломъ дрижалъ, и слезы ιакъ рѣкою текли з᾽ очей его (Варл , 281), не могȣчы мовит ωчы ее реки слез вылевали (Зб 255, 339б); з реки роскоши твоеи напоишъ ихъ (Пс XVII, 5), тогды жъ в городе рѣки кривавые текли, македонιане у криви бродили (Алекс 1697, 14—14б).

**Рекати** *дзеясл Гаварыць; загадваць.* она паки рече, слова такова рекали сут᾽ въ старыхъ приповестѧхъ (Скар. ДЦ, 107б);

Не рекаи другꙋ твоему иди ныне и навратисѧ (Скар ПС, 9), рекаци сльнцꙋ и не сьѧеть и звѣзды запечатываеm (Зб 262, 156)

**Реквезиция** *гл.* реквизиция

**Реквизировать** *дзеясл Тое, што і* реквировати акторъ мои укрывжоныи обельги своей реквизировать не моглъ ничимъ (АВК, XV, 63, 1653).

**Реквизиция, реквезиция, реквизыцыя** *наз Зварот да судовых улад з пэўнай просьбаи* съ которого подданого своего панъ Битичъ и пани малжонка его милости за реквезициею ихъ милостей пановъ Рамультовъ справедливости учинити не хотели (АВК, XVIII, 486, 1670), ихъ милостямъ за непооднократною реквизициею только нѣкоторыхъ справъ въ велю фасцыкулахъ знаидуючихъ презентованье, а яко тыхъ справъ, такъ всихъ звышменованыхъ речеи передъ нами до права не становили (АВК, IX, 49, 1671), ей, пани .. третее части всех имен .. за частою реквизыцыею, не хочут и не выделяют (ИЮМ, XXVI, 509, 1679).

**Реквированый** *дзеепрым ад* реквировати з властных маетносте велможного воеводы новгородского реквировано (ККСС, 436, 1615).

**Реквировати, реквировать** *дзеясл Сыскаць, кампенсаваць* шкодъ своихъ на маетности его реквировали (АСД, I, 237, 1609); штобы место ушкожоно презъ то незаседанье его было, на нимъ самимъ и на маетности его место реквировать повинно (ИЮМ, IX, 350, 1639), взглядомъ недостатку тыхъ злочынцовъ, ижъ шкоды реквировать нетъ на чомъ (АВК, XXVIII, 361, 1657), его милость ксендзъ метрополита .. поневажъ оны держачими тое церкви были и до себе што одбирали, реквировать и доходить позволяемъ (АВК, XV, 291, 1671) *Параўн* реквизировать.

**Рекгалъ, регалъ** *наз Невялікі арган* рекгалъ зопсованый, инструменты два – великии а малыи (АВК, XXII, 156, 1565); Сопль. Сопѣль, пищалка, флетнѧ, фꙋѧра, дꙋда, сꙋрма, жоломѣима, фѣстꙋла оу органов, або оу регалѡв (Бяр., 153)

**Рекгула, регула** *наз* **1.** *Правіла, закон* впроваженье до цркви бжее штоpазъ то новѣишихъ рекгоулъ и неслыханыхъ перед тым обрѧдовъ и достоенствъ вымышлѧнье .. дѣепис розꙋмѣетъ (Апакр., 180б—181); васил ст положил в рекгꙋле абы на простых потравах переставали (Зб 261, 147б—148); такая ихъ рекгула, же мнихамъ мяса ѣсти не годится (АЗР, IV, 212, 1600—1605), тыи теж приняли ѡднꙋ рекгꙋлꙋ з рицерми

бжогробскими (Стрыйк., 555б); ксендзъ .. пропомневши боязни Божое, встыду людского и стану своего капланского, особливе рекгулъ духовныхъ, помененую малжонку его пана крыяцко выпровадилъ (АСД, I, 285, 1634); законникъ .. вси мтвы и псалмопѣние ведлугъ регулы ѡтправивши хлѣба ѡного поживал (Зб. 107, 190б—191); закон ѡпаркаными ест рекгꙋлами (Зб. 259, 196б); выписалъ имъ рекгꙋлы и ꙋставы ѡколо ѡденѧ и еденьѧ мтвы и сыпанѧ (Пралог, 679) *Параўн.* ракгула, рекгулатъ.

**2.** *Абрад* законники регулы .. покладали тестаментъ остатнее воли небощика (АВК, IX, 16, 1625), законники регулы святого Василия великого .. тотъ монастырь со всимъ .. на себе обняти и вѣчными часы держати маютъ (АЗР, V, 13, 1633); такъ тежъ .. на ховане въ нимъ людей годныхъ и побожныхъ законниковъ регулы святого отца .. тое святое братство благословили (АСД, II, 57, 1635); пресбитеръ и законникъ монастыря .. булучи рекгулы светого Базылего .. оповѣданье свое .. подалъ (АВК, III, 50, 1646)

**Рекгулатъ** *наз. Тое, што і* рекгула *ў* 1 *знач.* ѡттул ест рекгулат покуты ѡт таким назначоные (Зб. 261, 98)

**Рекгулка** *наз., памянш. ад* рекгула *ў* 1 *знач.* его сꙋт роботы наши и мают быти ведлꙋгъ рекгꙋлъки правъной (Зб. 259, 315).

**Рекментарь** *наз. Тое, што і* региментаръ Выправа пана войта до Смолянъ, до пана рекментаря (ИЮМ, XVII, 59, 1710)

**Рекнути** *дзеясл. Сказаць, прамовіць* царъ рекнетъ Глиньскому: братъ мой король до мене усказываеть (КЗ, 331, 1480); егда рекнꙋ вамъ биите его (Скар. ДЗ, 90); сего длѧ девица еи же азъ рекну наклони ведра своего да напиюсѧ (Скар. КБ, 41б); на приреченье слова его милости готовъ, што его милость словомъ своимъ легкимъ рекнетъ, заплатити маю (АВК, XXI, 239, 1556—1557); што словомъ рекнетъ, то маютъ все тое платити (АВК, XXII, 343, 1570); хтоколвек рекнет, же без греха живꙋ, кламца ест (Зб. 261, 201); рекни што противног бгꙋ, абы тебе ꙋскорѣ смертъю забил (Бельск., 39б); только рекни слово, а оулѣченъ боудетъ слꙋга мой (Калист, II, 17); поидꙋ до ѡтца моего, и рекнꙋ емꙋ Ѡтче згрѣшилемъ (Варл., 96); толко рекни пнко велекаѧ ест дианна (Зб. 82, 37б).

**Рекогниция** *гл.* рекокгницыя

**Рекогницыя** *гл.* рекокгницыя

**Рекоемство** *гл.* рукоемство

**Рекокгницыя, рекогниция, рекогницыя, рекокгниция** *наз. Пісьмовае сведчанне; квітанцыя.* податокъ панове и шляхта до поборцы, з достаточными своими рекокгницыями отдавать и отсылать мають, зъ своимъ властнымъ подписомъ руки и печати приложеньемъ (КПД. 533, 1569); показалъ панъ киевский рекокгницыю .. подъ печатьми и подписомъ рукъ ихъ (Арх. ЮЗР, VIII-5, 188, 1570); на што ми его милость рекокгницію рукою своею власною писаную далъ (АСД, I, 234, 1607); в сорока копах гроше' литовских поклада*л* рекогницыюего (ККСС, 73, 1615), ку суженью припала справа .. за позвомъ до месту запису и особливой рекогници и ихъ милости (АВК, XV, 312, 1672).

**Рекомо, рекома** *зл. і часц. Быццам бы* онъ ва*м* каза*л*, што бы рекомо взѧто оу не*г* 30 бочек вина (ПГ, 1, 149, 1441–1444); печать рекомо бы была не его (КСД, 961, 1516); далъ есми имъ листъ сво' вызнаны' на то рекома бы*х* в нихъ позычылъ полътинѹ гроше' (КВЗС, 38б, 1537), хотя то рекомо за Греческую заставуются, але боронятъ того, чого не вѣрятъ (Гарм., 171); звѧгливыми а выкрѹтными словы твоими, хотѧи бы еси иншимъ простымъ досыть рекомо в той мѣре оучини*л*, собѣ самомѹ в' сѹмнѣ*н*ю досы*т* не оучини*ш* (Апакр., 95б), диѡволи рекомо люди въ мори потонули (Зб. 752, 25). *Параўн.* ркомо

**Рекомый** *дзеепрым. Які называецца, так званы.* нарекоу*т* имѧ емоу еммаиоилъ. рекомыи с нами бъ (Чэцця, 133б), былъ естъ дванадесѧтыи месецъ рекомыи мар*т*ъ (Скар. КЕ, 15); книгу сию рекомую премудрость написалъ есть Ѳилонъ философъ (Скар. ПБ, 1б); Пѣрвая планета рекомыи кр*ѡн* а держить сѹботѹ (Неба, 61б); которые были староства пана Станислава Яновича, рекомого Кезкгайла (АЗР, III, 88, 1557).

**Рекрация, рекрацыя, рекреяция** *наз. Адпачынак; занятак.* еслис стане в доме*х* мовы непотребны*х* жебыс не тра*ѧ*ѡли ѡко по тые часы тра*ѧ*ѡло*с* на рекреѡциѡ*х* (Зб. 261, 140), та*к* те*ж* и дѧкчинене а за*с* може*т* бы*т* ѡсобное коли не зараз иде*т* на рекрацию, але змови*т* в ке*ли* (Там жа, 148б); вепръ грѣшны' .. рече' телесны*х* шѹкае*т* .. мѣсто церкви до корчмы на беседы, на рекрацы' (Зб. 259, 134).

**Рексъ** *наз. Кароль.* Сиисмѹнъдѹсъ рексъ, Левъ Сапега подъканъцлеры', Великого кнѧзьства Литовъского. Кгабриель Во'на Писаръ (Ст. 1588, прадм.); панованьѧ нашего королевства полского ѡсмого, шведского второго. Жикгимонтъ, Рѣ*x*ъ (Апакр., 209).

**Ректанье** *гл.* регтание

**Ректоръ** *наз Рэктар, кіраўнік духоўнай навучальнай установы.* далъ о себѣ справу, што есть за человѣкъ, яко былъ въ Падвѣ колько лѣтъ ректоромъ наукъ Еллинскихъ и Грецкихъ (АЗР, IV, 161, 1597), седечы дей тому служебнику его передъ каменицою рекътора збору еванъгелицъкого Виленского ино деи тотъ служебникъ его збилъ (АВК, XX, 127, 1598); его млсть ксендзъ ректоръ и ни жаденъ з отцовъ Езуитовъ . яко ку прыслуханью прысеги, такъ и ку попиранью самое тое справы, не становилисе (ИЮМ, XXIII, 333, 1623), отца Іосифа Бобриковича, старшого и ректора монастыра братского Виленского церкви Святого духа (АЗР, V, 9, 1633); покладалъ листъ належачий его милости ксендзу Сымону Укгъневскому, рекътору колеюмъ и академии Виленскои социетатисъ Езу (АВК, XX, 316, 1636); ксендзъ Янъ Раковски ректоръ и ксендзы Криштофъ Янковски префектъ колегеума социетатисъ Езу Берестейского оповѣданье ку записанью до книгъ врадовыхъ подали (АВК, V, 17, 1644); Справа, зачатая велебного въ Богу его милости ксендза ректора ихъ милостеи оицовъ іезуитовъ колеюмъ Полоцкого, зъ нѣкоторыми розными мѣщаны (АСД, I, 367, 1645), ку суженью припала справа въ Бозѣ велебного его милости ксендза Марцияна Колаковского ректора колеюмъ Пинского социетатисъ Езу (АВК, XV, 407, 1680)

**Рекуперация** *наз Вяртанне чаго-н страчанага або адабранага* замокъ Смоленскіи . в' рѹки Кнѧзѧ Московского ѡдишолъ былъ Опѹстивши домъ, родинѹ, и маетности свои шлѧхецкіи, славно в' тои земли ѡбфитыи, оу продковъ Кролеи ихъ Млстеи' и тепер' намъ щасливе панѹючого Кролѧ Пна нашего, ꙗкъ дрѹгіи Іѡсифъ при надѣи рекѹперации, ѡчищеньѧ и привернен*ѧ ѡт*чизны (Мак., 5)

**Рекуперованый** *дзеепрым ад* рекуперовати тотъ провентъ *ѡт* того жъ матюки рекѹпрованъ добре (ККСС, 73б, 1615), по елиберованью зъ рукъ неприятельскихъ московскихъ пановъ его королевское милости великого князства Литовского рекуперованыхъ и одысканыхъ зъ мѣста кролевского въ скриняхъ трохъ (АВК, IX, 48, 1671)

**Рекупарованье, рекупорованье** *наз Дзеянне па дзеясл* рекуперовати тепер за шенсливым рекупорованем его кор млсти пна нашего милостивого сию протестацыю до враду вашей млсти заношу и оповедаю (АВК, XXXIV, 276, 1663); которые вжо вси тры помененые Павловичы Гущы, еще перед ре-

куперованем Полоцка, з сего света смертю зошли (ИЮМ, XXVI, 185, 1667), велебный отецъ намесникъ церкви брацкое .. по рекуперованю до посесии своее тое именье Тресковичи бы ть одняль (ИЮМ, XXII, 393, 1668), на выправу пана Девулского до Ракова, для рекуперованя купцовъ, отобрали золот его (ИЮМ, II, 78, 1684), высылали пана лавника Боуфала до Головчицъ, для рекуперованя пенки пана Лапицкого бурмистра, которую затрымали за жыда (ИЮМ, X, 47, 1695), отобрали зъ кабаку грошей . на рекупероване возовъ (ИЮМ, XII, 5, 1698).

**Рекуперовати, рекуперовать, рекупоровать, рекупуровати** *дзеясл* *Вяртаць што-н страчанае або адабранае* Законники . позволяючи им тое брат'ство при поменено' церкви, ним ꙋпривилееваны' рекꙋперꙋют штар мѣти Аппробꙋемо и позволяемо (Дыяр , 156), не сполеваючысе и не чуючы от его кор млсти пна нашого милостивого помочы рекупороват и ретоват и вызволит нас с того тяжкого и великого обложеня (АВК, XXXIV, 379, 1663); хотечи тую соль рекуперовать (АВК, XV, 366, 1677), Пана Девулского до Клецка высылаючи, зъ Миру, зъ листами до ксюнженця Клецкого рекупуруючи арештованыхъ купцовъ, одъ жида Герцка затурбованыхъ, дано пану Девулскому на страву золотыхъ дванадцать (ИЮМ, I, 251, 1682), што панъ Михалъ Казкевичъ, рекуперовавши, повиненъ буду пану воиту до рукъ отдать, на то даю мою ассекурацыю (ИЮМ, XIV, 46, 1700).

**Рекупорованье** *гл* рекуперованье

**Рекупоровать** *гл.* рекуперовати

**Рекупуровати** *гл* рекуперовати

**Рекучий** *дзеепрым* **1.** *Ад* речи подлоуг выреченія моудрьца рекоучого оу теле против тела жити и есть животъ ангелскій а не члвчій (Валх., 66).

**2.** *Які завецца, званы* крол филен мел возъ велми дивныи вес зуполна оуделаныи шт древа рекꙋчего геборъ . а кола его были с так рекучего древа гебанус (Троя, 336)

**Рекше** *дзеепрысл. у знач зл Гэта значыць, іншымі словамі* Естьли хто учитъ прюбидити домъ Божій, рекше церковь, прюбидити и не радити о неи, ни собиратися въ ней на пѣніе во время молитвы, да будетъ проклятъ (АВК, VIII, 21, 1595); Дрꙋжба Рекше Единоꙋміе, Товариство (Бяр , 39)

**Рекший** *дзеепрым ад* речи оубоитеса рекшаго оусты аплъскими (Чэцця, 245); по брани пристꙋпльшимъ к немоу

дрꙋгомъ его рекшимъ дай же намъ часть (Там жа, 311); ꙗкъ оономъ не есть ложно слово Бжее, такъ и о семъ правдив и вѣренъ есть рекший Бгъ (Калист, II, 343б)

**Релацыйный** *гл.* реляцыиный

**Релацыя** *гл.* реляцыя

**Релеквея** *гл.* реликвия

**Релексацыя** *гл.* реляксацыя

**Релея, релийя, релия** *наз. Рэлігія, вера, веравызнанне.* привильемъ, и поприсѧженьемъ нашимъ есть ꙋтвержоно покою межы розными в релии стеречы (Ст. 1588, 67), помененые станы и посполъство звышъ речоное релии русское мещане виленские братья церковныя церкви мѣста виленского .. покладали передъ нами Гдремъ порадки и артыкулы в справахъ и въ обыходехъ церковныхъ (СДГВ, II, 8, 1589), греческое релии ѡтстꙋпꙋете (Бер. саб., 13), конститꙋцыѧ были выдали релии греческо' (Барк., 171б); наши продкове ... в рицерских справах вѣкъ сво' травѧчи, не диспꙋтовалисѧ ѡколо релии (Стрыик., 433); якобымъ я релию Кгрецкую въ рымскую превратити хотѣлъ (АСД, VI, 129, 1608), таковыи кождыи абы былъ правомъ духовнымъ одъ старшихъ релии нашое Кгрецкое (АВК, II, 53, 1624), рече гаина, але ѧ есмъ релѣи иншое (Зб. 81, 108б); нехаи хожꙋ в правдѣ твоеи, то есть в правдивои релии и наꙋцѣ твоей (Выкл., 137б), свещеникъ Заблудовское церкви релии дызуницкое, на имя Янъ Кудрицкіи (АВК, I, 94, 1666) *Параўн.* реликгия

**Религия** *гл.* реликгия

**Релийя** *гл.* релея

**Реликва** *гл.* реликвия

**Реликвиаръ** *наз. Футаральчык для нашэння мошчаў.* възяли готовыхъ грошей, в атласе шъкарлатнымъ зашытыхъ, которые онъ на собе способомъ реликвиара на шънуре едвабномъ на шые носилъ (АВК, XX, 314, 1635)

**Реликвия, релеквея, реликва, реликуя** *наз. Мошчы святых і іншыя прадметы рэлігійнага шанавання.* с силною радостію и чстію и съ иными розмаитыми реліквиѧми которе там индіе выпросила и собрала была то ꙋсе оу тое место пренесла (Валх., 75б), емоу тые реликвіе дал (Там жа, 77), ѡ ѡбразех ѡ реликвах стыхъ дивныx блюзнерствъ ꙋжываюm (Аб абр., 1); то не новаѧ есть реч але старожытност местцами певнымъ, богꙋ ласку свою даваm релѣквѧмъ розмаитымъ моц цꙋдов чыненѧ ꙋделѧm (Там жа, 2), если ꙋчъстивост релѣкве' и месцъ

стыхъ болит геретыком, лечъ не мне и ѡбразы, або и горе бо выкинꙋвшы ѡбразы з цркви снадне прити до погаржанѧ мощами свѧтых (Там жа, 26). Треба до Слꙋжбы Бжои Антимисъ цалыи неподертыи . съ Реликвıѧми, то естъ Костми стаго ꙗкогоколвекъ, при концꙋ Антимѣса зашитыми (36 вып., 306) ◊ Реликве (реликуе) домове — *дзетародныя часткі цела* *ѡт* того часа при выбиранию папежа маца архидиꙗкон през столок диравыи мает ли папежъ реликꙋе домове (Царств., 72), По смерти два четвертог папежа римског, сѣл на столицы ꙗи ѡсмыг, невѣста бꙋдꙋчыг *ѡт* того ж часꙋ при выбиранию папежа мацает дьꙗкон през столок дирꙗвыг мает ли папеж реликве домовое (Бельск., 3716)

**Реликгия, религия** *наз. Тое, што і* релея копѣя видымусъ съ тыхъ книгъ братству церковному Львовскому религии Грецкоѣ (АЗР, IV, 21, 1589), игумень Берестеиски монастыря светого Симеона, реликгии кгрецкое (АВК, III, 104, 1682)

**Реликуя** *гл.* реликвия

**Релия** *гл.* релея

**Рель** *наз. Перакладзіна* двадцать и семъ человѣковъ на смерть сказнить, розстрѣляти зъ самопаловъ велѣлъ, а двадцать и одного на муку, на корды, а по вашому на рѣль поднявъ, палачамъ сѣчи (АЗР, IV, 479, 1615).

**Реляксацыйный** *прым.* ◊ Листъ реляксацыиный *гл.* листъ.

**Реляксацыя, релексацыя** *наз. Вызваленне ад чаго-н.; палегка* мы релексацыи и ни субливацыи на таковую баницыю, которая не съ канъцелярыи нашое естъ вынесена, не выдаваючы, пречоного Кгалимского взяли есмо подъ оборону маесътату нашого (ИЮМ, II, 228, 1630), Козꙋбовски .. ѡ релꙗксацыю ꙋ нас старатисе зволил (КАР, 306, 1646); мꙋ релꙗксацыꙗ подлꙋгъ того ж декретꙋ трыбꙋналског зъ канъцелꙗрыи нашое выдана быт мает (Там жа, 41)

**Реляца** *гл.* реляцыя

**Реляцийный** *гл.* реляцыиныи

**Реляция** *гл.* реляцыя

**Реляцыйный, релацыйный, реляцийный, роляцыйный** *прым.* 1. *Ад* реляцыя *ў 2 знач.* Я Жданъ Лесковскии, возныи воеводства Берестеиского, сознаваю тымъ моимъ квитомъ реляцыйнымъ (АВК, XVIII, 242, 1617); далъ есми тотъ мой квитъ реляцыиныи ку записанью до книгъ кгродскихъ Берестеискихъ (АВК, III, 32, 1629), Ѳедоръ Садовскии квитъ свои реляцыиныи

ку вписанью до книгъ мѣскихъ Полоцкихъ прызналъ (АСД, I, 368, 1646), ставшы очевисто енерал повету Пинского Андрей Сачковский, квит свой реляцыйный подъ печатми своею и стороны шляхты и с подписом руки свое до книг кгродских Пинских признал в тые слова (АВК, XXXIV, 1, 1654); У квиту того релацыйного подписъ (АВК, XX, 389, 1665).

2. *Ад* реляцыя *ў 3 знач.* ◊ С о и м и к ъ р е л я ц ы й н ы й — *правінцыяльны сеймік, на якім дэпутат галоўнага сейма рабіў справаздачу аб тым, што адбылося на сейме.* Передъ нами депутатами ку отправованью судовъ каптуровыхъ ... на соймику конвокацiи Варшавской реляцыйнымъ въ року теперешнемъ тисеча шестьсотъ тридцать второмъ згодне обраными ... Вавринецъ Кореневскiи очевисто созналь (АВК, II, 59, 1632), с у д ъ (с о н д ъ) р е л я ц ы й н ы й (р о л я ц ы й н ы й) — *суд, на якім кароль заслухоўваў даклад аб пададзеных скаргах і просьбах.* ему дали едучому до Короля Его Мсти на суды ассесорския и роляцыине, тысячъ осмъ (ИЮМ, I, 210, 1682), п. Иллевичу, адъ рацюнемъ, якъ сонды настали реляцыиные, далъ тал. битыхъ (ИЮМ, X, 131, 1695).

**Реляцыя, релацыя, реляца, реляция** *наз.* 1. *Данясенне, паведамленне, рапарт, справаздача.* шкрипть и протестацию ... с повѣстю дѣеписовъ знѣсiши, каждый снадне обачитъ чомѹ въ той релѧцiи его вѣрити, чомѹ не вѣрити, и чомѹ обычаине а осторожне вѣрити потреба (Апакр., 8б), вси справы, которие на релѧцыи нашо зостали ... лимитовали есмо (КЛС, 177б, 1598).

2. *Пісьмовае сведчанне судовага выканаўцы аб сваей дзейнасці.* На што я возный для лепъшого сведомья мого даю тую реляцiю мою до книгъ подъ печатью моею (АВК, XVIII, 60, 1589); Ульчицский мел ждати покладанья на суде реляцы того возного (АВК, XXXII, 61, 1596), Поводъ, доводячи тыхъ бунтовъ и тумултовъ, показовалъ протестацые и реляцые (Арх. ЮЗР, VIII-5, 294, 1602); покладалъ на то протестацыю на враде кгродскомъ ... такъже и релѧцыю возного поветѹ ѡшменского (ККСС, 32б, 1615); пану Жикгимонту Пальневскому, а при нимъ и всимъ мѣщаномъ Берестеискимъ, складано рокъ черезъ сiю реляцiю мою ку праву становити (АВК, II, 60, 1632), пленипотентъ Таировича покладал процес и реляцыю о тое кгвалтовъное забране огорода (АВК, XXXI, 451, 1679); Енераломъ двумъ Буткевичу и Яцковичу за реляцыю на пана Отрошковича, золот. одинъ (ИЮМ, I, 163, 1681), кун-

гуша и жупана, коштуючихъ цѣною въ реляцин енеральской описаною, пошмарованье и въ нивецъ оберненье (АВК, XII, 488, 1684).

3. *Справаздача дэпутата сейма перад павятовай шляхтай аб пастановах сейма і сваіх дзеяннях на ім* За написане картокъ на сесыю для прислуханя пановъ пословъ релацыи, одъ пановъ пословъ прибылыхъ, золот. одинъ (ИЮМ, I, 260, 1682); панъ воитъ Хомутовски розказалъ розписать картки на сесыю для прислуханя релацыи (ИЮМ, III, 127, 1685); гды панове послове прыехали зъ Варшавы, отъ кроля, теды для прислуханя реляцыи збиралисе панове на сесыю (ИЮМ, VIII, 106, 1691).

**Ремарь** *гл.* римаръ

**Ременне** *гл.* ременье

**Ременный, ременны, ременый, ременьный** *прым* Скураны ўзда крыговаѧ поводы ременьные (КВС, 454б, 1552), згинуло ему деи ... триноговъ три, путъ ременныхъ три, сабля (АВК, XVII, 415, 1557), за хомѹтъ мѹжыцкиⷨ ременныⷨ шесть грошеⷨ (Ст 1588, 516), на тотъ же часъ оборвали у мене поесъ ременны з мешкомъ (АВК, XX, 163, 1600), перед тым на шгучках ременных форму ꙗкуюс выбиꙗно, и ѡными такъ, ꙗко тепер сребреными купчоно (Хр польск., 11), Предотеча и всѣ заразы пожадливости оумертвилъ, и поꙗсъ ремѣнныи около бедръ своихъ мѣлъ скѹра бовѣмъ мертвои скотины есть частⷨ (Калист, II, 278), нашыльникъ ременныи отъ шору, то все с того шпихлера покравшы, негъ ведома, где подевали (АВК, XVIII, 325, 1631); Ѹемѣнь, ѧ Ремѣнныи, кожаныи, скорѧрыи, юхтовыи (Бяр., 182), Купили у дорогу отъ Ермолы рымара леицъ ременныхъ новыхъ двои (ИЮМ, X, 32, 1695), купили тры поясы ременыхъ на цуги (ИЮМ, XI, 65, 1697) *Параўн* ремянныи.

**Ременъ** *гл.* ремень

**Ременый** *гл.* ременный

**Ремень, ременъ** *наз* 1. *Доўгая паласа скуры, звычайна выраблепай* црь ... повелѣл никитоу свѧзати ременем сырымъ (Чэцця, 326), на'довано ꙋ нѣкоторих вѧзнев стрички и ремени (Хр. польск., 24), ѡдинъ ремен великиⷨ през плечи ему виселъ (Пралог, 537), рогъ зъ ремнемъ (ИЮМ, VI, 143, 1689), Ремень кренцоныи купили у Марка Шиндера (ИЮМ, VIII, 91, 1691); Купили ремень до бубна широкій, дали осм пятнадцать (ИЮМ, IX, 51, 1692), Купили четыры ремени до увязованя олстровъ (ИЮМ, XI, 65, 1697).

**2.** *Выробленая скура (матэрыял)* приехал ѡн богатыи крол велми филименис . со двема тысячми рыцерев которыж мели горнаши и тарчи которых материю не была з древа оуделана але толко з ременя вареного (Троя, 13б), Ивашко . оказовал кончер у которого паски простого ременю дубленого (АВК, XXXIX, 500, 1579); въ той же коморѣ окно одно трема шинами перебито, столокъ обитый ремнемъ для седѣнья (АВК, XIV, 361, 1590), Карета кошовала копъ шестьнадцать, футрованая ременемъ юхтовымъ (АВК, VIII, 485, 1599). Скутополіте, ѳстіи граждане, ел татаре, скорами або ременями бавячися мещане (Бяр., 310).

**3.** *Скураная завязка* ѡтвеща ему аврамъ юко ѡт нити еже с' чел'нока выходить, и даже до ременя сапожнаго не возму ѡт всихъ еже твоя суть (Скар КБ, 27б), не естомъ годенъ припадши розвезати ремена ботовъ его (Цяп , 43), ѡт нити ѹтъковои ажъ до ременю ѡбѹвъю, не возму зо всего што твоего есть (Біблія, 36), Ремень значит двѡхъ прироженіи Хвыхъ бозства и чловеченства взаемное злѹчене, которого Предотеча не можетъ, анѣ ся важит розвязовати (Каліст, II, 278б), по немъ идетъ дрѹги', которого не годенъ есми ѹпадши ременъ сапога его розвезати (Зб 259, 629б), есми не голен ремень сапожны' розвязати (Зб. 82, 305б).

**4.** *Скураны пояс, папруга* юко педагогъ, маючи сна чявка юкого богатого под своимъ цвичен'емъ, такъ долго его ременемъ б'етъ, и дѣтинѣ поты тое каран'е, раны и плаги сѹть тяжки, поки в' мѹжа досконалого не в'воидетъ (Мак , 301—302)

**Ременье, ременне** *наз., зб Рамяні, доўгія палосы скуры* в той же дей клети было хомуты, шлеи и иншое ременье до дому належачое (АВК, XXXI, 154, 1593), на ѡстаток таки' голод мѣли же поевши вси кони и гно' их ели, и ременю которыми возы покривали (Бельск , 232б), местьскіе поправки дармо маемъ направлять мескимъ ременьемъ, также и новое робить . зъ ременья меского (ИЮМ, VIII, 441, 1632); то' теды заразъ казалъ на нем ремѣне краюm по всемѹ тѣлу (Пралог, 537); За ремене и за вожки д, асмак. десеть (ИЮМ, I, 131, 1681), За ремене сыремятое у дорогу Ѳедоровичъ взялъ, заплатили осмак. семнадцать (ИЮМ, IV, 62, 1686), взели ледовницу и ременне за 24 осм. (ИЮМ, XVIII, 109, 1710).

**Ременьный** *гл* ременный

**Ремесленикъ, ремесленникъ** *наз. Тое, што і* ремесникъ *у* 1 *знач.* многии съ подданыхъ нашихъ мѣщанъ Виленскихъ,

**Розка** *гл.* розга

**Розказанье** *гл.* росказанье

**Розказати** *гл.* росказати

**Розказовати** *гл.* росказовати

**Розказъ** *гл.* росказъ

**Розказывати** *гл.* росказывати

**Розквитнути** *гл.* росквитнути

**Розквитнутися** *гл.* росквитнутися

**Розкга** *гл.* розга

**Розкиданый** *гл.* роскиданый

**Розкидати** *гл.* роскидати

**Розкидовати** *дзеясл.* *Раскідаць, разганяць.* розкидѹеть нечестивыи, црь мдрыи и наворотит на них шболъ (Зб. 262, 103б)

**Розкидывати** *гл.* роскидывати

**Розкованый** *дзеепрым. ад* росковати ў 1 *знач.* казалем его выпѹстити и зараз розковано мѧ (Дыяр., 174б)

**Розкованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* росковати ў 1 *знач.* за розковане Кондрата Жуковца, который былъ у везеню, ковалю дали осм (ИЮМ, I, 108, 1695)

**Розковати** *гл.* росковати

**Розкопанье** *гл.* роскопанье

**Розкопати** *гл.* роскопати

**Розкопатися** *гл.* роскопатися

**Розкоповатися** *дзеясл., зв. ад* роскопывати шна ... подоптѹетсѧ, побитыхъ кровию мажетсѧ, розкопѹет'сѧ, засыпѹетсѧ, и трѹпов' схованем' ставает'сѧ (Варл., 239)

**Розкопывати** *гл.* роскопывати

**Розкошный** *гл.* роскошный

**Розкревенье** *наз. Пашырэнне* где бы потомокъ на розкревене родѹ зосталъ, тамъ таковомѹ поимованю, быти не позволилъ (Каліст, II, 331).

**Розкрываненье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* роскрывавити розъкрывавенье сталося черезъ того судью и его помочники (КСД, 1183, 1509)

**Розкрыванье** *наз. Раскрыванне* за розбиране и розкрыване кровли старое и спущане на долъ заплатили (ИЮМ, X, 159, 1695).

**Розлакомитися** *дзеясл. Разласавацца.* Павел ... закохалсѧ был в дорогих каменѧх, и смѣл взѧт в церкви стои софии з каменми велми дорогими коронѹ гдѹ бгѹ штданѹю в которої теж были, карвункѹли, на которые сѧ шн розлакомил (Бельск., 355)

**Розламати** *гл.* розломати

**Розлеванье** *гл.* розливанье

**Розлевати** *гл.* розливати

**Розлегатися** *дзеясл.* *Разлягацца, разносіцца* тогды закричаша вси людие и ѹ трубы трѹбиша, и гласъ велии розлегатсѧ во ѹшию всего множества (Скар. IН, 13б), ѡстатокъ людѹ посполитого шло за скрынею, а трѹбы сѧ розлегали (Біблія, 238); когды ѹслышиш голос, иж по верхѹ дерева се розлегает, знак бѹде мо перед тобою (Бельск., 104), розлегаютсѧ голосы храпливых трѹбъ (Стрыйк., 475б), коли пришла скринѧ примирьѧ г(оспо)днего до обозѹ, кричалъ весь Iзраиль голосомъ великимъ, и розлегалосе по земли (Хран., 201б)

**Розлегающийся** *дзеепрым. ад* розлегатися. Буди ... гласъ звереи лютыхъ или розлегающиисѧ межи высокими горами глаголъ (Скар. ПБ, 27).

**Розлезатися** *дзеясл.* *Разлазіцца, развальвацца* неции же людие не слухаючи его и оставиша нечто на ѹтро, и почало розлезатисѧ черьвами и сгнило (Скар. КI, 32)

**Розлезтися** *дзеясл.* *Разысціся* далъ емѹ тотъ товаръ и розлезсѧ с нимъ (ПГ, I, 150, 1445), ваша милость сами оуедна ли томѹ Симоновичю рок Покровъ Матки Божии быти оу Полоцкѹ и съ слѹгою моим розлѣзтисѧ (ПГ, II, 79, 1480)

**Розленитися** *дзеясл.* *Разленавацца* все справивши, розленитисѧ и занехати (Калист, I, 38), потомъ розлѣнившисѧ и славѹ свѣта оулюбивши, сам в собѣ закохалъсѧ, с пыхою надѹлъсѧ и такъ в самыи глѹбокости грѣха впалъ (Мак., 263). *Параўн.* разленитися.

**Розленятися** *дзеясл.* *Разгультайвацца* не омешкаймо прето братие а нѣ сѧ розлѣнѧимо (Калист, I, 78б), не остабѣваимо братие прошѹ вас, а нѣ сѧ розлѣнѧимо (Калист, II, 218)

**Розлетети** *дзеясл.* *Тое, што і* розлететися. съ тыхъ дей ѧ гусей одно привезли есмо к гусей, а инщие на поли розлетели и повтекали (АВК, XVIII, 57, 1584)

**Розлететися** *дзеясл.* *Разляцецца* розлетѧтсѧ п(т)ици с летоʼрастеи его (Скар. ДП, 16), слава ієсва ... по всих змлѧх множиласе и розлетеласе (Валх., 60б) // *перан.* громъ або перѹнъ знакъ славы своее, котораѧ сѧ розлетѣла ѩко голос перѹновы (Зб. 259, 555б). *Параўн.* розлетети

**Розлиане** *гл.* розлиянье

**Розливаный** *дзеепрым. ад* розливати *ў 2 знач.* кров розливаючих абы также была розливана (Стрыйк., 415), крови бы людской болше не было розливано (Тр. гіст., 69б)

**Розливанье, розлеванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розливати *ў 2 знач.* выписано въ томъ привилеи .. о злодѣиство и о розливанье крови (АЗР, II, 10, 1507), милость котораѧ мнѡжит кгвалты, мѡрды и розличные крови розливане (Апакр., 183б), тро'ден молодши' .. ввес живот сво' до во'ны и лупов и крови розливаню проставал (Стрыйк., 529б), о злодейства о розливаньи крови .. позвани отъповедати (СДГВ, 156, 1607), розлеванье крви христіянское .. чинили (АВК, VIII, 121, 1637), тепер на дрѹгѹю во'нѹ идѹ длѧ розливане крови моеи (Зб. 752, 243б), то светокрастеа, чародеиства, невинъное крви хрестіаньскихъ детеи розлеванье (АВК, XXI, 117, 1681).

**Розливати, розлевати, розливать** *дзеясл.* **1.** *Разліваць* пакъли бы се хто упивши .. на столь узлегалъ и питье розлевалъ, тогды старосты таковосо маютъ первеи словы карати (АВК, X, 6, 1538), того Ивана моцно кгвалтомъ беручи пили и розливали (АВК, XVII, 392, 1541), братья въ оное братство вписаные .. меду ихъ братского не розливали (АЗР, III, 270, 1582), гости .. на стол не взлегали и меду их братеского не розливали (СДГВ, 35, 1608).

**2.** *Пралiваць (кроў, слезы)* некоторыи как неприѧтеве (!) свою кров пірожнѧю розливають брата любо сестрѹ забіваютъ (Віел., 29б), кровь невинъную людскую невстыдливе и невинне в надею заплаты за нее пенежное розливають (Ст. 1588, 485), людскои крови не розливал (Бельск., 335б), не хотѧчи .. сполнои крови хрстиѧнскои длѧ дочасной столицы розливат (Стрыйк., 476), выпадали на грецкии во'ска и потоками крови' розливали (Тр. гист., 70), не розлива' слез драпежцо и псе нечисты' (Пралог, 50б), великое гонение противъ хрстиѧном кровъ ихъ розливаючи и мучачи ихъ в зновилъ (Там жа, 622), ани розливаите крови брата своегѡ (Хран., 60). *Параўн.* розлияти.

**3.** *// перан. Распаўсюджваць, пашыраць.* Разливаю. Роздроблюю, оутѣшѹю, розливаю (Бяр., 134—135).

**Розливатися** *дзеясл., зв.* **1.** *Ад* розливати *ў 1 знач.* третіе море ростѧглосе до Калаврѣи и до алмацких горъ .. а пакъ се розливаючи злѹчилосе теж з Акїаномъ (Хран., 6б).

**2.** *Ад* розливати *ў 3 знач.* ѡт срдца бовѣмъ злыи мысли походѧтъ и такъ розливаючисѧ потемнѧет' чл҃ка (Мак., 139); ѡттол же горкость смрти розливаетсѧ по тѣлѣ (Выкл., 101б).

**Розливать** *гл.* розливати.

**Розливачъ** *наз. Тое, што і* розливца. зы ди розливачѹ криви ѡто тебе караютъ злыи твои ѹчинки (Бельск., 107б—108).

**Розливаючий** *дзеепрым ад* розливати *ў 2 знач* кров розливаючих абы также была розливана (Стрыйк., 415).

**Розливающийся** *дзеепрым ад* розливатися *ў 1 знач* река розливающаася основанье ихъ (Зб. 262, 21б)

**Розливца, розлийца, розлитца** *наз Той, хто праливае (кроў)* им ꙗко лотром нихто доброволне дѣвок своих в стан малженски, не давал, бридꙗчисꙗ ними ꙗко здрацами бенкартами и крови розлицами (Бельск., 145б); таки конец взꙗл ѡкрутник и хрстиꙗнскои крови неслыхани розливца (Там жа, 259), декии цесар, хрстиꙗнскои крови ѡкрутныи розливца, пріехавши до ефесу, всих казал имат (Жыц св., 27б), Деки цесар хрестиꙗнское крови срокги розлитца (Зб. 752, 97), сты василе был часу лва ѡбразоборцы и розливцы крови хрстианское (Там жа, 561). *Параун* розливачъ

**Розлити** *дзеясл* **1.** *Праліць (кроў)* естли бы хрестьянинъ жида вдарилъ такъ, якобы криви не розлилъ маетъ на немъ вина быти водлугъ обычая нашое земли (АЗР, I, 24, 1388); за ѡнцы свои Христосъ кровъ свою розлил (Бер саб., 30б), розлил манаси кров невинную исаиꙗ пророка дѣда своег (Бельск., 133); дал кровъ свою за вас розлити (Зб 752, 443), ѡт ѡного днꙗ бгъ поставилъ ижъ епископом быт мѣл церкви его за которую кров свою розлилъ (Пралог, 512б); розлили кровъ ихъ ꙗко воду ѡколо иерусолима (Пс XVII, 71), хто бы колве розлилъ кровъ чавѣчую, буде вылита кровь егѡ (Хран., 16б), ѡнаꙗ кровъ быдлꙗчаꙗ фигуровала кровь, которую мѣл длꙗ нас хрстос гсдь розлити (Выкл., 50) *Параўн* разлити, розляти

**2.** *// перан. Распаўсюдзіць, пашырыць* бъ розлил еси над нами ѡную клатву и присагу им написано в законѣ моисеѡвом (Зб. 262, 123).

**Розлитие** *гл.* розлитье

**Розлитися** *дзеясл* **1.** *Разліцца* волна . ѡ берегъ вдаритсѧ и ѡпѧт розольетсѧ (Чэщця, 55), опѧть широцѣ розлѣютсѧ воды (Скар IК, 44б); розлеютсѧ потоки твои по оулицам по рынкох ручьи водам (Зб 262, 95б); река взобралаꙗ высоко, так иж вылиласꙗ през берега и розлиласꙗ по полꙗх (Бельск., 224б); ростислав утекаючи утонул на стугне рецѣ, бо была на том час розлиласꙗ (Стрыйк., 465), море второе есть во Алеѯандріи, которое розлилосе ажь до сікилѣи (Хран., 6б)

**2.** *// перан Распаўсюдзіцца* по всемъ телѣ еꙗ розлилосѧ прокажение (Скар ЛК, 30), доскончание и оущербение розолетсѧ на пустоту (Зб. 262, 123б), тлустост земнаѧ розлилас

по земли (Пс XVI, 136), хстовое зас крови потопъ розлилъсѧ по всѣхъ краинахъ (3б. 259, 529б); геретицы . не хотѧт мѣти сполечности зе всимъ свѣтомъ, по котором' сѧ розлила хвала хсва (Выкл., 142б).

**Розлитоватися** *дзеясл* *Злитавацца.* ѡбачилъ Іс народъ мнѡ ги, и розлитовальсѧ над нимъ, и оуздоровилъ хѡрыхъ ихъ (Калист. II, 43б), видечы люд розлитовалсе над ними ижъ были ѩко ѡвцы не маючы пастыра (3б 255, 209б)

**Розлитца** *гл.* розливца

**Розлитый** *дзеепрым* 1. *Разлиты* бочку дей пива виделъ якобы у три ушатки ув ызбе розлито (АВК, XXI, 199, 1556), розлито ми олею ѩко за копу грошн (ИЮМ, XXXII, 30, 1578)

2. *Пралиты (аб крыві)* кровь вин'ных' розлита была (Скар. ЛК, 54б), кров розлита, черъницы поктвальчоные (Бер саб, 50), погребли царѧ в самарѣи, и розлита кров его (Біблія, 452)

3. // *перан* *Распаўсюджаны* ласка же безумныхъ розлита будеть (Скар ІС, 32б), она сама рожаною барвою на твари розлитѹю и вдѧчными а ѩсными очима смѹтное свое срдце и збытною боѩзнію стисненное покривала (Хран, 380)

**Розлитье, розлитие** *наз* 1. *Разліцце* Розлѧние Розлитье, розрадоване, роскошоване, роззолѧне (Бяр, 135)

2. *Праліцце (крыві)* ахилес мечем своим их преследует которыи з них невымовне побил и поранил ѹ велико' крови розлитѧ (Троя, 27б), жалуючи того невинного розлитія крови христьянские (АЗР. II, 223, 1538), Богданъ Василевичъ противку непріятеля нашего розлитья крви своей не литовалъ (РПП, 204, 1555), продъкове ваши . з розлитьемъ крови своее и з ѹтратою маетносте' своихъ противъ кождого неприѩтелѧ служили (КЛС, 1506, 1597); ничого в' людехъ боѩзливыхъ, а межи небоѩзливыми розли'е крви справити может (Апакр, 216б), то' теж почал наслѣдоват ѡбычаев ханана галиле'чика бо се розлитем крови невинной и ганебным драпезством бавил (Бельск, 225б), мѣсто тое голова народом многим бѹде, але на забо'ство и розлитю крови' (Рым, 80); бачне'шыи жыдове розѹмѣли то, же длѧ розлитѧ крови его спустошал Іерѹсалим (3б 752, 459—460)

**Различне, различно** *прысл* *Розна, па-рознаму* караеть богъ розлич'не ѹбиство и полно о том' вездѣ ѹ стомъ писанью (Будны, 82); ѳеѡдора стог. розличне мордоваваши, ѹтѧли емѹ головѹ (Стрыик, 498б), Различнѡ, различ, разн'ственнѡ' вѱи розмаите, рознѡ, петро, розличнѡ (Бяр, 135), порвали его

ельлины и розличне мордовали водючи его по мѣсту (Пралог, 496б), суда шны велми ся гнѣвом запаливши, казал его розлично мучивши, в реку ўтопити (Там жа, 520) *Параўн* различне

**Розличность** *наз. Рознасць; разнастайнасць* Различие. Розмаитость, розличность, розность (Бяр., 135), сты впровадивши его ўказал ему райскую сличност зети розличност деревъ розмаитост (Зб. 107, 103), на мале престава а розличност потрав шткида (Зб. 255, 104б) *Параўн* различность

**Розличный** *прым. Розны, разнастайны* люде стыщети и чести могли розличными языки и писмы (Скар. КЕ, 5), ездимо ищучы розличныхъ прыгод яко ж ежлчалые рыцэры (Трыст., 47), приводили до него вси хорие розличными немоцьми (Цяп., 5б), неть единости вѣри християнское которўю шни розличьными расколы наболе торгають (Унiя, 44), цесари княжата свѣцкие и розличные ршзныхъ кўтшвъ свѣта бискўпи синшды потвержали (Апакр., 149), ишол при не лвдъ зас з дрўгим людом был весел, перед скринею спѣваючи и на розличных мўсикиях играючи (Бельск., 104), смокве розличных барвъ и ўжове почали се квапит ку шзерў (Алекс., 27б), Хс. розличными чинами стўю свою црквъ оукрасилъ (Калкт, II, 239б), не такъ розличными звездами сияют нбса, яко Египетъ незличоными хорами законъниковъ стыхъ (Зб. 259, 442б), симешн . на розличныхъ столпех лет четыридесят претрвал шт дожчў моцны, шт слонца ўпалены (Зб. 82, 66). *Параўн.* различный.

**Розлиянье, розлиане** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розлияти постерегаючи здоровья своего и детокъ своихъ и розлиянья крови невинное для таковыхъ великихъ похвалокъ его, мусялъ есми ему листъ дать (АВК, XXII, 238, 1565), великое крови розлияне починил (Бельск., 148), з великим крови хрстиянской розлиянем награвал (Стрыйк., 524б); том по великом розлиaню крови ўдался был до набоженства (Рым., 79)

**Розлияти** *дзеясл. Тое, што і* розливати *ў 2 знач.* входит ўбо в тя смачно, напослѣды же оукусить тя яко гадъ, и яко змии ядъ в тобѣ розлиеть (Скар. ПС, 36)

**Розлога** *наз. Разлога* нашол мѣстце над шзером пўщами реками и розлогами вдячное и красное, збўдовал замок (Стрыйк., 514б).

**Розложеный** *гл.* розложоный

**Розложенье** *наз.* **1.** *Дзеянне па дзеясл.* розложити *ў 1 знач* тымъ сполнымъ зъеждчаньемъ на соимики абы ся . владза судовъ и розложенье книгъ судовыхъ . ничимъ не касовало (КПД, 495, 1568), коли хто ꙗко в иншых краꙗх не с постꙋ але з розложенꙗ потравъ том сꙗ называет политицки (Зб. 261, 125).

**2.** *Дзеянне па дзеясл* розложити *ў 2 знач* за порѧдкомъ и за добрим розложеньемъ и труднаѧ рѣчь в собѣ, латвеишаа бывает, и памѧти много помагаеть (Будны, 210б), потребно . теж порадьное розложене понъктов (Зб 261, 70)

**Розложити, розложыти** *дзеясл* **1.** *Расклаці, пакласці ў пэўным парадку* жена лежала ꙋ вратъ розложивши руце на прагу (Скар КС, 42); кормъ всякіи на певныхъ меисцахъ для прѣѣзду нашого розложили (АВК, XIII, 25, 1547), чинꙗчи примире забили ꙗкое быдлꙗ и розложили его по частꙗх двома сторонами, а ходꙗчи межи ними (Біблія, 42)

**2.** *Размясціць, расставіць* собралъ есть Саломонъ возы и ездци ихъ же розложилъ ест по местахъ огражоныхъ (Скар ТЦ, 251), карность на него по въсеи земъли розложыти гостинцы и станы певъные, на которыхъ подводамъ отмена маеть быти (КПД, 596, 1558), войска свои при границахъ оныхъ же панствъ нашихъ розложилъ (АЗР, III, 219, 1577); ѡзиꙗ . начинил во иерꙋсалимѣ розмаитои стрелбы которꙋю розложил по вежахъ и по ꙋглах муров (Біблія, 488), Болеслав там сам зимовал розложивши жолнеров по лежах ѡколичных (Стрыйк., 460б).

**3.** *Размеркаваць* каждои заплате пенежнои с права сказанои маеть быти сказыван рекъ чотыри недели, а болшои суме далшии рок, а тисѧчи копамъ роки розложити (Ст 1529—Ф, 78), я .. роки есми тои заплате розложилъ (АВК, XVII, 111, 1540), розложил был на целыи рок, на кождую чверть лета по десети коп грошеи литовскихъ платити (ИЮМ, XXX, 120, 1577), на две раты розложывшы, тотъ податокъ отдавали (КПД, 599, 1558), тые городни зробили, розобравши то межи себе и розложивши на люди свои (АЗР, III, 105, 1559)

**4.** *Склаўшы гаручы матэрыял, запаліць, развесці (агонь).* ѡдного тежъ часу в печерѣ розложилъ ѡгонь и поломень велми великиі началъ выходить ку горѣ (Пралог, 627), ефросен ѡгон розложивши, на братю потравы готовалъ (Зб 82, 432)

**Розложитисе** *дзеясл*, *зв. ад* розложити *ў 2 знач* положилисꙗ ѡбозом на мѣстцꙋ которое потом названо лѧхис, то есть челюсть, гдѣ се ихъ воиско было розложило (Біблія, 131б)

**Розложоный, розложеный** *дзеепрым* **1.** *Ад* розложити *ў* 1 *знач* старшие и ѹчоные мѣли на то столицы и катедри на которых седѣли, а иншие молодшие лавки розложоные мѣли, а подлѣшие на землѣ на рогожах седѣли (Бельск., 202); Скеуа Розложеный, розраженый, росправленыи, або наготованыи (Бяр., 310); постели теж золотыи и сребреныи розложоны были на мостѹ змарагдовомъ (Хран., 377); тыи хлѣбы . были порѧдне розложоныи, з едной стороны шесть, з дрѹгой также шесть (Выкл., 43)

**2.** *Ад* розложити *ў* 2 *знач* ротмистры по дворохъ з ротами розложоны (КПД, 759, 1563); по местцахъ головнейшыхъ поветом и судомъ поветовым розложоных зъежджатисе и збиратисѧ паномъ книземъ радам нишым (Ст 1566, 56); по ролѧхъ и предмѣстѧх мѣста каждого были розложони мужеве (Біблія, 503).

**3.** *Ад* розложити *ў* 3 *знач* платы розложены на три роци съ тое волости выбирати (АСД, I, 42, 1536); его милость тую серебщизну, которая на два годы по пяти грошей розложена, вамъ отпустити рачилъ (АЗР, III, 105, 1559); тые грши винен буду заплатити ему самому на раты розложоные (АВК, XXXIX, 72, 1578).

**Розложыти** *гл.* розложити

**Розлоистый** *прым* *Разлівісты* вода солодкаѧ и животекѹчаѧ, розлоистаѧ и з береговъ выливаючаѧ (Калист, I, 166) *Параўн* разлоистый.

**Розлой** *наз* *Разлў* при ономъ кгрунте своемъ занела ей милость розлоемъ того ставу своего кгрунту костела Божьего Слонимского светого Андрея по обеюмъ сторонамъ тое речки кгрунту оремого (АВК, XXII, 115, 1565); он року прошлой семъдесят девятог у ночы, будучы мне на розлояхъ Днепренскихъ, у Костромина колодезя отнѧл с тыми козаками сетей пят (АВК, XXXIX, 558, 1579)

**Розломати, розламати** *дзеясл* *Разламаць* всемѹ веремѧ и час час розломати а час збѹдовати (Зб 262, 876); маленкие и немовѧтка прагнѹли хлѣба, и не было бы им розламал (Зб. 261, 1996) *Параўн* разламати, розломити

**Розломити** *дзеясл* *Тое, што і* розломати ѡвощь коли кто з любости оурвет и розломит соут оуноутрь порох (Валх., 866); оусхотѣл бы бог и сокрѹшил бы мѧ приложил бы рѹкѹ свою и розломил бы мѧ (Зб 262, 146); хлѣбъ напол розломили и ели (Зб. 752, 237).

**Розломитися** *дзеясл., зв. ад* розломити докꙋль не оурветсѧ поворозъ серебреныи и зламлетсѧ кꙋбокъ златыи розломитсѧ оуставка на жерелѣ (Зб. 262, 92–92б).

**Розломовати** *дзеясл. Разломваць* хто копаеть ѡмкꙋ въ неѣ ньвалитсѧ а хто розломꙋеть загородꙋ оукꙋсить его змии (Зб. 262, 91б).

**Розлука** *наз. Разлука* имъ по то͐ тако͑ розлꙋце волно будеть в иншое малъженъство ѡтдаватисе (Ст. 1588, 289), болший намъ жаль, срожшии боль, тѧжеищаѧ мꙋка, въ одной ѡтца особѣ зо всѣми розлꙋка (Лям., 3), маючи теды при собѣ Гсда по розлꙋцѣ ѡд тѣла, з великою радостю ѡдходѧтъ до вышнихъ мешканновъ (Мак., 171–172).

**Розлупити** *дзеясл. Разбіць, разламаць* Бꙋчацкии воскъ розлꙋпит (Стрыик., 561б). *Парайн.* разлупити.

**Розлуцца** *наз. Разлучнік.* оучиниться тѧжкіи розлоуцца занюж черес его враженье боулеш терпѣти оукоротце сына твоего милого ѡт тебе розлоучение (Пак. Хр., 2).

**Розлучанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розлучати. тотъ грехъ нехай будетъ на того Ивана Чорного, который естъ прычыною до розрыванья и розлучанья того стану светого малженского (ИЮМ, VIII, 330, 1614).

**Розлучати, розлучать** *дзеясл. Разлучаць; раздзяляць* повелить гсь англомъ розлꙋчать праведники ѡт грѣшникъ (Чэцця 371б), розлучаеть смер͑ть прегор͑каѧ (Скар. ПЦ, 33); што прото богъ спожеть, чоловѣкъ нехаи не розлучаеть (Цяп., 26), которие в млсти жили ѡни розлꙋчаюm (Зб. 261, 15б), реклъ агагъ: и так ли розлучаеть горкаѧ смерть (Біблія, 325), который мене з створителем͑ моим Бгомъ розлꙋчаетъ (Калист, II, 323), смерть (мовитъ) зовнꙋтрнаѧ ѡт дши розлꙋчаетъ тѣло (Сматр., 20), што Бгъ злꙋчилъ чавкъ нехаи не розлꙋчаеть (Навука, 163); што Бгъ злꙋчилъ, человѣкъ нехай не розлꙋчает͑ (Варл., 275), Роздѣлѧю. Розлꙋчаю, превышаю, роздѣлюю (Бяр., 134). *Парайн.* разлучати.

**Розлучатися, розлучаться** *дзеясл., зв. ад* розлучати. потокъ... розлучашесѧ во четыри реки главные (Скар. КБ, 11), левъ гинет безъ оуторгненьѧ и сиве лютого розлоучаютсѧ (Зб. 262, 13б), земли Лиѳлянтские ... отъ Великого Князьства розлучати и розделяти ся не мають (КПД, 434, 1567); может се того сторона за две речы розумети и розлучати также и от суду тутошнего зрыватисе (АВК, XXXII, 111, 1596); такъ и подчасъ присопамѧтное и спселное его стрсти, дѣлитьсѧ и розлꙋчат

*ѡт* него (иле могла) не хотѣла (Карп., 45б); Разликꙋють: Розни сꙋть, розлꙋчаются, рознятся (Бяр., 135); геретик розлꙋчает*ся* з *гдем* богом живымъ и правдивым (Зб. 107, 188), мы друг *ѡт* дрꙋга розлучаем*ся* (Зб. 752, 503б)

**Розлучать** *гл.* розлучати

**Розлучаться** *гл.* розлучатися

**Розлучаючий** *дзеепрым. ад* розлучати. Лvсіа, и Лvстраел: Розвязꙋючи, розлꙋчаючій (Бяр., 292)

**Розлучаючийся** *дзеепрым. ад* розлучатися: кождая дша з тѣломъ ся розлꙋчаючая на тыхъ мѣстъ сꙋжона бывает (Зб. 259, 353б).

**Розлучение** *гл.* розлученье

**Розлученый, розлучоный** *дзеепрым. ад* розлучити: есть люд ѡдинъ росѣянъ и розлꙋчонъ межи людми по всѣмъ землям црства твоего (Зб. 262, 129), гуфъ тежъ ихъ Жомоитскіи на колько гуфовъ былъ розлученъ (АЗР, II, 386, 1542), тые малжонькове предъсе розълꙋчоны бꙋдуть (Ст. 1588, 289), всѣ тые мовлю хот розлꙋчени *ѡт* себе и мѣстцами и часами, дхомъ и вѣрою так спѡени и злоучоны соуть (Апакр., 162б), тѣло мое грѣшное, кгды будетъ съ душою розлучоно, яко землю земли поручаю (АВК, XII, 542, 1612), теперъ помѣшаны сꙋтъ справедливыи з грѣшными, а на онъ часъ знамените розлꙋчены бꙋдꙋт (Калист, I, 23б)

**Розлученье, розлучение** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розлучити: боудеш терпѣти оукоротце сына твоего милого *ѡт* тебе розлоучение (Пак. Хр., 2), глава ... ѡ розлучении его с лотомъ братаничемъ своимъ (Скар. КБ, 25), по томъ его розлученью тотъ мужъ еѣ Иванъ ... изъ дому прочь отъ себе ее выгналъ (АЗР, III, 2, 1545), ѡбецꙋемъ ... напередъ жалного розоръванья межы собою не чынить, ани розлученья жадного допустить (Ст. 1588, 67); воротился саꙋлъ переставши гонити давыда ... и для того назвали ѡное мѣстцѣ камень розлученья (Біблія, 341); смрть Прирожена ест посполитое всѣм людем дши *ѡт* тѣла розлꙋчене (Смятр., 18); розлꙋченье побожныхъ и незбожныхъ въ днь сꙋдный (Мак., 402), ничого зась иншого не есть смерть, толко дши *ѡт* тѣла розлꙋчен'е (Варл., 65), ѡни рачей се веселят анижли смꙋтят для розлꙋченя дꙋшы *ѡт* тела (Зб. 255, 396); млоденци тежъ стые бачачи ꙋже ѡстатнее свое розлучене умиленно плакали (Зб. 82, 348б)

**Розлученьеся** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розлучитися: иногды и розлꙋченеся добро бываетъ (Калист, II, 4), естъ ... розлꙋченеся

лши *ѡт* тѣла (Сматр., 20); дла розлꙋченасѧ з' ѡным ꙗкбы живота ѡстрада*т* мѣла (Варл., 333).

**Розлучити, розлучить, розлучыти** *дзеясл. Разлучыць; раздзяліць* было полоненых *л* моу*ж* и ведоша ихъ аравити и розлꙋчиша на трое (Чэцця, 92), смер'ть мене розлучить *ѡт* тебе (Скар. КР, 3); тыхъ двухъ речей слова и таинъ розлучити нельза (Будны, 245), велми их ласкаве прывитали и розлучыли их з ѡружъем (Трыст., 114), розлꙋчи*т* их еди*н* *ѡт* дрꙋгого ꙗкъ пастырь *ѡт*лꙋчае*т* ѡвцѣ *ѡт* козъ (Каз. Кір., 160б); коли шли, а илꙋчи розмовлꙗли, а што колесница ѡгнистаꙗ и кони ѡгнистыи розлучили ѡбодвух (Біблія, 458), бы*л* ѡбꙗвле*н* муж котори' тебе мае з животом розлучи*т* (Алекс., 38б), припотемъ розлꙋчити сна з' *ѡт*цемъ, и дочкꙋ з' маткою (Варл., 223); ро*з*лꙋчи*л* бгъ межы свѣтомъ и межы тмою (Зб. 752, 469б); дꙋшꙋ ... коли хоче*т* може*т* еи с тѣло*м* розлꙋчити (Выкл., 8) *Параўн.* разлучити.

**Розлучитися, розлучытися** *дзеясл., зв. ад* розлучити розлучишеса *ѡт* себе единыи кажныи *ѡт* брата своего (Скар. КБ, 26), въ цер'кви бо бꙋдуть и добрие и злые, аже до скончаньѧ свѣта, а тогда розлучатсѧ (Будны, 157б), коли сѧ розлучыл Галиѡт с Трыщаном, писал Галиѡт лист своею рукою (Трыст., 84); скоро розлꙋчив'шисѧ с тѣла, бꙋлꙋ зара*з* корꙋнова*н* (Каз. Кір., 28), Іракли' цеса*р* рокꙋ то*г* з тѣло*м* се розлꙋчи*л* (Бельск., 342); прагнеть с ты*м* дочас'нымъ животомъ розлꙋчитисѧ (Карп., 13б), тѣло тое з' земли створеное скоро сѧ розлꙋчить з' дшею (Варл., 65), Симонъ чаровъникъ ... на зем'лю ради не ра*д* злетѣлъ и з дꙋшею сꙗ розлꙋчилъ (Зб. 259, 54б), розлучившисꙗ со л'вом пришолъ до монастыра своего (Пралог, 574), дрꙋгъ *ѡт* дрꙋга розлꙋчимсꙗ, а дале' ꙋже сꙗ з собою ѡгледати не будемъ могли (Зб. 82, 348б).

**Розлучить** *гл.* розлучити

**Розлучоный** *гл.* розлученыи

**Розлучыти** *гл.* розлучити

**Розлучытися** *гл.* розлучитися

**Розляный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* розляти хто бы чию кро*в* розꙗл*л* также его розлꙗна мае*т* быти (Наб. тур., 22б); которы' бы розли*л* кро*в* чл҃чꙋ неха' бꙋде и его розлꙗна (Бельск., 9б); кровъ невинная розляная о помсту до Бога волаєть (ИЮМ, VIII, 364, 1620), невинне розляная кровь хрестиянская о помсту до пана Бога не волала (АВК, XXIX, 39, 1673)

2. // *перан. Распаўсюджаны.* костелъ том ...по всемъ округу землѣ есть розляный (Апакр., 159б—160).

**Розлянье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розляти. если дей ми записовъ ведле воли моеи дать не хочешь, много розлянья кръви будетъ (АВК, XXII, 238, 1565), Богъ ... невинное кръви хрестьянское розльяне помстити рачить (АСД, I, 155, 1579), великое розлѧнье крве и знищеньѧ з' внутрнои войны дѣютсѧ (Апакр., 31б), иные погане которые розумѣючи жес их бгве в розлѧни кохают забивали сны и дочки свое (Зб. 261, 249), кнѧз ѡлкгирдъ тое славное звитѧзство без розлѧнѧ крови ѡдержавши з веселием на витебскъ до литвы вернулсѧ (Стрыйк., 544б), на розлѧне крви бѣчи имъ не допускаимо (Каліст, I, 110), бачнеишые жыдове розумѣли тое, ижъ длѧ розлѧнѧ крови его помста на иерусалим и жиды вси пришла (Зб. 81, 51), цнота ... на лупѣзства, ц...золожства розлѧнѧ крови невинное натрафила (Зб. 259, 437), працы и розлѧне крови длѧ имени хвы не жаловал (Зб. 752, 45б), тая справа о розлянье крве, наѣздъ на цвинтарь и пострѣленье (АВК, XV, 283, 1671).

**Розляти** *дзеясл. Тое, што і* розлити *ў 1 знач.* хто бы чию кров розлѧл также его розлѧна мает быти (Наб. тур., 22б); в неровнымъ ѡкрутенствѣ за сведетство кров свою розлѧли (Зб. 752, 46).

**Розлятье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розляти. ѧкъ сами воевати, так тыж и других на розлѧтье кр'ве побужати мѣли (Каз. Кір., 68).

**Розмавлянье** *гл.* розмовлянье.

**Розмавляти** *гл.* розмовляти.

**Розмавляться** *гл.* розмовлятися.

**Розмавяти** *гл.* розмовяти.

**Розмагатися** *дзеясл. Набываць моц, пашырацца, разносіцца.* розмагатисѧ будеть звукъ трубъ дол'шии и променит'шии (Скар. ІН, 12б), затымъ пакъ гладъ роз'магашесѧ на земли (Скар. КБ, 79), што дале' то барзе' сѧ таѧ покуса на свѣте розмагала (Бельск., 92).

**Розмаите, розмаито** *прысл. Па-рознаму.* приходѧщим бог дары своего млсрдіа розмаите выдавал (Валх., 70), которое слово ѡтрокъ роз'маите се выкладаеть (Цяп., 3), их до ѡфѣр богов, примушано и розмаито мучоно было (Бельск., 235б); волосы на головѣ его ѧкобы лвиныи розмаите накроплены (Алекс., 4), Дхъ зась Стыи розмаите ведлугъ розности дѣиств'

своихъ называет'сѧ (Калıст. I, 134); розныи ласки маркованьѧ, хотѧй розмаите выражаютъсѧ в' словѣ, оуставичне еднакъ людми справꙋютъ, скꙋтокъ до скꙋткꙋ прикладаючи (Мак., 194), Въсеѡбразнѡ Всѧкимъ способомъ, розмаите (Бяр., 23), много хорыхъ, слепыхъ, глꙋхих и розмаите ꙋломных збеглосе, которые дотыкаючысе толко тѣла пресветого, зараз чꙋдовне ꙋздоровени были (Зб. 255, 354), сталасѧ зраненою млстью и запаленьемъ вшетечнымъ к немꙋ и розмаите жерело оное чистости ловила (Хран., 64), есть то мѣсце барзо трꙋдное кꙋ вырозꙋмѣню, претож его теж розмаите выкладают (Выкл., 6б)

**Розмаитость** *наз.* *Рознасць, разнастайнасць*: которие прıклады ꙗкъ розмаитость розꙋмѣн'ѧ того назвиска голова, такъ и то перед ѡчи намъ кладꙋтъ (Апакр., 104), двдъ далъ сребра теж вагу волıугъ розмаитость начинꙗ и робот (Біблія, 407), розмаитост ꙗзыков свѣтꙋ пан бгъ рачи і роздат на земли (Бельск., 12), в розмаитост хоробъ впалае (Алекс., 33б); о розмаитости ихъ, раздѣленьи в тои главѣ оуважати бꙋдемъ (Навука, 52), сꙋть и зетка, а в' них' розмаитости многии ѡдни здоровю слꙋжатъ, а иншии до запахꙋ належат (Мак., 295), Различие Розмаитость, розличность, розность (Бяр., 135), ꙋказа і ему ра'скую сличност зели' розличност деревъ розмаитост (Зб. 107, 103), не потреба давовати же в кожъдомъ пола сотвореню ест такаꙗ розмаитост (Зб. 259, 100б), што одно може быть оуробленно з' золота, и сребра, и мѣди, мармꙋрꙋ и каменьѧ драгагѡ и розмаитости деревъ (Хран., 108б)

**Розмаитый, розмоитый, росмаитый** *прым.* 1. *Розны, неаднолькавы, не тои самы*: таѧ гора кроуг и ѡколо скалами и зышлы и росмаитым деревьемъ велми есть ѡкрашона (Валх., 42б); тамъ суть чистые ловы ку ловенью розмаитыхъ звѣровъ (АСД, I, 25, 1536); в розмаитых езыках оучоными быти (Цяп. Прадм., 269), том рокъ велми был недобры', были хоробы болести розмаитые многие великие (Барк., 154б—155), шкатула железомъ белымъ окована, з речми невестими, с коренемъ розмаитымъ (АВК, XXVIII, 57, 1605); были во'ны великие троꙗн з греки ѡ которых мног поетов и историков мног писало, причины розмаитыи даваючи (Бельск., 77б), жебысмо не ѡтгонили и не ѡтда'ꙗли тыхъ, которыи и з' розмаитыхъ грѣхѡвъ повставши до покꙋты и до вѣры пристꙋпꙋютъ (Калıст. II, 257), великое множство выходило з розмаитых краин и мѣст абы ѡглѧдали мученики бжіи (Зб. 107, 94), з трехъ сыновъ Нѡѧ Сıма, Хама и Афета пошли розмаиты назвища народѡвъ (Хран., 17б).

**2.** *Разнастайны.* многими прешлѧхетными княжаты и многих боѧръ и рытеров и мниховских законов розмаитыми иными и многими розных и розмаитых рожаевъ (Валх., 40); грекове зрѩдили собе рады розмаитыи ѡ кторых же нижеи будемъ мовить (Троя, 3); у клети нашли серебра розмаитое роботы неважоного за печатю (ИЮМ, XXXII, 214, 1578). Послове тым часом высажоны з ѡбѹ сторон розмаитые собе кондыцыи подавали (Стрыйк., 596б). ѩкъ вода з нба сходѧчи ѡтживлѧетъ и кормит вшелѧкии з землѣ походѧчии дерева и травы, и одновидна бѹдѹчи, розмаитыи скѹтки выдаетъ (Калист, I, 134–134б). Многоѡбразныи Розмаитыи (Бир., 80), з крещениѩ ласки божее розмаитые цноты походѩт (Зб. 259, 524), ѩк ѡдноѡбразнѹ землю видѩчи з которои чакъ ест розныи и розмаитыи в нем частки видимо (Жыц. св., 118). *Параўн.* размаитый.

**3.** *Асаблівы, адметны.* бо шие нес юушие иж ты володимерскомѹ лоуцкомѹ полоцкомѹ пинскомѹ и холмскомѹ влдком над лвовскимъ и премыскимъ влдками власть розмаитѹю зверхность и вышшость приписѹешъ (Апакр., 81б–82), по многих днии жона его ѡборотила ѡчи на младенца стала сѩ зраненою млстью и запаленемъ вшетечным ку нему, и розмаите жерело ѡное чистости ловила (Біблія, 89), ест власность поста, не толко позно ести, але и мало ести и въстремежливости властность естъ, не через дрѹгіи або третіи день ести, але розмаитых потравъ не искати (Калист, I, 33), Претожъ, ѩкъ нескончонаѧ, и невымовнаѧ розмаитои мѹдрости Бжеи оумѣетность, з речій небылыхъ и грѹбшіи, и сѹптелнѣишіи, и простѣшіи тѣла, жебы истностъ свою мѣли, волею своею створил (Мак., 34), на лихтари сребрѩныи и на лѧмпы ихъ воллѹгъ розмаитои мѣры вагѹ сребра ѡтдалъ (Хран., 287). *Параўн.* размовитый.

**Розмалвяти** *гл.* розмолвяти

**Розмарыновый** *прым.* *Размарынавы.* звыкли грекове до оливы и балсамѹ, прикладати, рожныи вонности и олѣики, особливе зась тыи насѣне розмарыновое, цынамонъ, кѹбеба, кордымонія, бобки, азаръ, мацеръ (Зб. вып., 16)

**Розмена** *наз.* *Абмен.* мы выслали въ посольствѣ на зъѣздъ съ послы Московского господарства, мовити и становити о добрыхъ дѣлѣхъ, о покою хрестіянскомъ и о розмѣнѣ вязневъ (АЗР, IV, 448, 1615)

**Разменивать** *дзеясл., шматкр. ад* розменити *ў 2 знач.* тотъ Иванъ, на то отказъ чынечы поведилъ, ижъ дей тотъ таляръ не мои и розменивать ему ниякого таляра не давалъ (ИЮМ, VIII, 359, 1620).

**Розменити, розменить** *дзеясл.* **1.** *Абчяняць.* Якожъ вжо и листы меновныи, которыи промежъ себе на тыи земли меновныи мели, розменили (АВК, XVII, 301, 1541), якъ бы межи тыми великими господарствы и народы хрестіянскими, коруною Польскою и великимъ князствомъ Литовскимъ и господарствомъ Московскимъ розлитіе крови хрестіянскои уняти ... и вязневъ розмѣнити на обѣ стороны (АЗР, VI, 441, 1615).

**2.** *Размяніць (манету).* помененыи Иванъ прышолъ до мене, до крамъ, таляръ розменить на монету (ИЮМ, VIII, 359, 1620).

**Розменяти** *дзеясл. Абмяняць.* ижъ мели тыми возки промежъ себе розменяти (АВК, XVII, 215, 1540).

**Розменятися** *дзеясл., зв. ад* розменяти. тамъ ся тыми возками розменяли — онъ нашъ возокъ взялъ, а нашъ мужикъ, обмылившися, не взнавши, его возокъ и взялъ (АВК, XVII, 215, 1540), якъ бы межи великихъ господарствъ его королевской милости коруны польской и великого князства Литовского и межи господарствомъ Московскимъ покой и тишину учинити и полоняниками розмѣнятися на обѣ сторонѣ (АЗР, IV, 446, 1615).

**Розмера** *наз. Тое, што і* розмеръ. мы господаръ ... выслалисьмо ... на розмѣреніе ревизоромъ секретаря нашого Станислава Локнецкого ... за которою помененою розмѣрою и роздѣленьемъ плацовъ и огородовъ мѣстскихъ ... всимъ подданымъ того мѣста нашого Лиска право Маидеборское дали (АВК, XIII, 40, 1580).

**Розмеранье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розмеряти. былъ ... на ревизыи у волости Вещвянскои по розмераню волокъ при селе войтовства Вещвянского (АВК, XXIV, 271, 1564), для розмѣранья воитъ маеть мѣть шнуръ (АСД, I, 192, 1594).

**Розмерать** *гл.* розмеряти.

**Розмерение** *гл.* розмеренье.

**Розмереный, розмероный** *дзеепрым. ад* розмерити *ў 1 знач.* лесы, на волоки розмероные, где годно, на пашъню людми осажати и вольности маеть давати урадъ на пять альбо на шесть летъ (КПД, 574, 1557); земли на волоки вже розмѣрены (АЗР, III, 84, 1557), особливѣ того коло двора пашни дворнои на три поля розмѣреныи есть лановъ малыхъ три (АВК, XVI, 186,

1576), подле стѣны Кгинтеневъ есть застѣнокъ на моркги розмѣроный (АВК, XIV, 536, 1595); Квасны болото, што было здавна розно розмѣроно, теперь уже заварто въ одинъ огуломъ квадратъ, который такъ се въ собѣ маетъ (АВК, VI, 187, 1599).

**Розмеренье, розмерение** *наз.* *Дзеянне па дзеясл.* розмерити ў 1 *знач.* мы господаръ, бачечи ку заложенью и забудованью мѣста надъ рѣкою портовою Боброю мѣстцо пригодное и пожиточное, выслали есьмо ... на розмѣрение ревизоромъ секретаря нашого Станислава Локнецкого (АВК, XIII, 40, 1580), панъ Виленъский ... описует в томъ листе розмеренъе и граниченъе трох обрубовъ коло дворовъ Шешолских лежачых такимиж прозвиски и личбою, яко в листехъ пана Виленьского вышей описано (АВК, XXX, 25, 1589); ходили панове маистратовые до монастыра братскаго до Черницъ, стороны розмереня кгрунту черницкого (ИЮМ, VIII, 99, 1690).

**Розмерителный** *прым.* *Прызначаны для абмервання, для замераў.* Землемѣрiе, или землемѣрство з ел.лин. геωметрiа, сирѣчъ, розмѣрителнаа есть сiе хꙋдожество зѣлω полезно къ розмѣренiю градовства, и пꙋтiи, и къ иным вещемъ наче болшимъ (Бяр., 51).

**Розмерити, розмерыти** *дзеясл.* 1. *Мераючы, вызначыць межы; падзяліць на часткі.* казатъ волоки ихъ розмѣрити и цинши и поплаты собѣ брати (КСД, 1320, 1519), Я дубровы достатокъ къ мѣсту вашой милости имъ далъ и на волоки розмѣрылъ (АСД, I, 40, 1536); розмеривши вдолжь на милю, а поперекъ тежъ на милю, ехалъ тою границою съ тыми осочниками и сторожами (АВК, XVII, 302, 1541), бгъ вымовил оу стом своем ... поднесоус и разделю сихем и оудол селъ розмерꙋ (Пс. XVI, 110б—111); паны ... угледевъшы до померення час погодны, мають то межы себе наполы розмерывшы поделить (АВК, XXXII, 417, 1577), такъ мы тамъ были и то з мерникомъ з уряду прыданымъ розмерили (АВК, XXXIX, 13, 1578), на тры части оное именье розмерыл и роуделилъ (АВК, XXX, 25, 1589); телесмилезꙋс ... наꙋчил греков наперве вѣдат бѣг слонечны и мѣсѧчны и затмѣне их и рок розмѣрил на тѯ днеи (Бельск., 168), Бгъ мовил на стом мѣстци своемъ, розвеселю сѧ и бꙋдꙋ дѣлити сихему, и долинꙋ наметов розмѣрꙋ (Пс. XVII, 45б—46).

2. *Змераць, вымераць.* Коли бы найдено в земли ... трꙋпа чавка забитого ... выйдꙋть старшии и судеве твои и розмѣрат ωт мѣстца трꙋпу ωтлеглост (Бiблiя, 224).

**Розмеркованый** *дзеепрым.* *Размеркаваны.* вольны тежъ будутъ пожитковъ всякихъ съ подданыхъ и кгрунтовъ пополамъ на обадва монастыры Кутеенские презъ насъ розмѣркованыхъ заживати (АЗР, IV, 522, 1631).

**Розмероный** *гл.* розмереный.

**Розмеръ** *наз.* *Абмер.* кгды на розмеръ примы ходили, же Гишка хромый переносилъ траву, стратили асм. зі (ИЮМ, I, 69, 1679). *Параўн.* размеръ, розмера.

**Розмерыти** *гл.* розмерити.

**Розмеряти, розмерать, розмерять** *дзеясл., шматкр. ад* розмерити *у 1 знач.* Потом ѹказал лаицѹхъ з кости слоново' справленыг', з которого походили семъ звѣздъ велми ѧсных, годины розмѣрѧючи и рожене люѡское (Алекс., 21), немцу маистру зъ Быхова, на имя Кгозбергу, якъ затягали вежу розмерать и ставить, то казали дать на страву и нагороды золот. десять (ИЮМ, V, 66, 1688), Якъ ездили за Днепръ моркговъ меских пашныхъ розмерять у Качерягахъ ... купили печеню за ползолотого (ИЮМ, VI, 85, 1689), Якъ згребли сено, п. райца ездилъ огледать и розмерать, купили ситецъ и обаранковъ (ИЮМ, X, 100, 1695).

**Розмесити** *дзеясл.* *Размясіць.* з воды снѣговои мѹки которои гроха зоставала, розмесила и хлѣба собѣ ѹпекла (Зб. 81, 89).

**Розметаный, розмятаный** *дзеепрым. ад* розметати. плотъ до гумъна того чоловека его розметанъ (АВК, XVII, 341, 1541), огледал ... бобров побитых и зеремян роскопаных и розмятаных, и зверу з оступов выполоханых (АВК, XXXVI, 353, 1582), Якожъ я возный ... видѣломъ на гребли Вортольской спустъ розметаныи и порубаный, кгреблю втрое переконаную (АВК, VII, 76, 1589); або длѧ закладанѧ фѹдаментѹ розкопаетсѧ албо инакшими ѧковыми способами все камнѣе розметано бѹдет (Каз. Кір., 136б—137), средостѣние мѹрѹ розметано и розвалено естъ, и зновѹ в' нѣкоторои части не до конца и не з грѹнтѹ вывернено (Мак., 75), Часъ ѹже чинити ѓди бо розметано законъ тво' (Пс. XVII, 141б).

**Розметанье** *наз.* *Дзеянне па дзеясл.* розметати. Вырокъ ... ѡ розметанье церкви Рѹское (КСД, 755, 1511); о шкоды ихъ от тыхъ жидовъ имъ в розметанью домовъ и забранью маетности починеныхъ (СДГМ, 26, 1564), просил мене о возного на огледане оного кгвалтовного розметаня плоту и потоптаня збожя и заораньня межы новое по збожю (АВК, XXXVI, 98, 1582); Я Станиславъ Пресмыцкий ... быломъ въ справѣ ...

ку огледанью кгвалтовного розметанья и порубанья спусту и розкопанья гребли втрое на однозѣ рѣки Желявы (АВК, VI, 76, 1589).

**Розметати, розмятати** *дзеясл. Раскідаць, разбурыць*: тымъ людомъ шдному домъ розметали, а дрꙋгомꙋ сожгли (КСД, 194, 1514); панъ Кгаштолтъ зъ Бѣльска тое пущи боронилъ и тыи люди розметалъ (АСД, I, 16, 1536); шнъ плоты розметавшы шное дворыщо кгвальтомъ поwравшы конопелъ насеꙗлъ (КВС, 520б, 1552), в тотъ часъ угрове збурывшы муры а через нихъ перешедшы а иншые шбороны розметавшы, до мѣста нагле вторгнули (Атыла, 209—210); тымъ же шбычаемъ кгды бы хто з лебединого гнезда ꙗ'ца побралъ або гнездо розметалъ, тогды за лебединое гнездо хто сказилъ маеть заплатити три рубли грошеˆ (Ст. 1588, 386), шнаж маршика ꙋлезши ꙋ лазню студенꙋю, голову шткрывши волосы роспꙋстивши, печкꙋ розметала, чаровные поганские слова говорила (Барк., 151б), иwсиꙗ ... по гробѣхъ шныx которыи им звыкли были шфероват штуки розметалъ (Біблія, 512), кꙋргановъ тых копцовъ новыx ... ꙋсыпаных своволне кгвалтовне и безправне трынадцать розметал и зопсовал (ККСС, 186, 1615), поднеслъ на них рꙋку свою, хотꙗчи ихъ позабивати на пꙋстынии, а жебы розметал потомство ихъ межи народы (Пс. XVII, 114б—115), тѣ тела розмятали изърубя по лесу (АВК, XXXIV, 92, 1656). *Параўн.* разметати.

**Розметный** *прым.* ◊ Р о з м е т н а я  г р а м о т а *гл.* грамота.

**Розметованье, розметыванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* розметовати: просили ме о вижа на огледанье розметыванья гребли (Пін., 137, 1562), Розорение ... розмѣтоване (Зіз., 15), Разорение. Розмѣтованье, зопсоване, збꙋрене, роскидане (Бяр., 135).

**Розметовати, розметовать, розметывати** *дзеясл. Раскідаць, разбураць*: Вси речи часъ имеють ... часъ роз'метывати камение и часъ собирати е (Скар. ЕК, 6—6б), тыи грани ..., после заведенья пана Якубова, розметывали и казили (АВК, XVII, 303, 1541), на гребли млына ... наверть была поставлена, абы нихто гребли не розметывалъ, воды не пропускивалъ (Пін., 137, 1562); Разаржаю ... розмѣтꙋю (Зіз., 15), хрестиꙗн гꙋбили и шкрꙋгенства чинили, и домы бжие розметовали (Бельск., 257б). Разаржаю. Розмѣтꙋю, збꙋрꙋю (Бяр., 134), сщенники ихъ и преложоныи забивать, церкви розметоват скарбы вˆ нихъ побрать ... росказалъ (Пралог, 599). *Параўн.* разметывати.

**Розметъ** *наз. Від пошлины*: даемъ имъ сесь нашъ листъ на то, ижъ имъ съ вами дани и тивуньщины посполъ не давати.

и подводъ и розметовъ съ вами не платити (АЗР, I, 171, 1497); Мѣщане въ мѣстѣ мають вже отъ того часу перестати розрубовъ и розметовъ класти на мѣщанъ нашихъ (АЗР, III, 113, 1561); теды мѣщане Оршаньскіе тотъ розметъ за вѣдомостью враду замкового будуть повинни скинути (АЮЗР, I, 253, 1594); Мѣщане въ мѣстѣхъ и старцы по волостяхъ мають вжо перестати розрубовъ и розметовъ класти на подданыхъ господарскихъ (АЗР, IV, 130, 1596) ◊ Метати розметы *гл* метати

**Розметыванье** *гл* розметованье

**Розметывати** *гл* розметовати

**Розмешаный** *дзеепрым* Змешаны если ѡферꙋешъ ѡферꙋ ꙋпечонꙋю в печи з бѣлои муки хлѣбы без квасу ѡливою розмѣшано нехаи будꙋ*т* (Біблія, 158), если офѣрꙋе*ш* оферꙋ оупечонꙋю в печи, з бѣлои мꙋки хлѣбы без квасꙋ оливою розмѣшаны нехаи бꙋдꙋтъ (Хран., 115)

**Розмешанье** *наз Дзеянне па дзеясл* розмешати Арави, Вечерни, або Рꙋкѡмѡве або влачныи або пѡлнии, або крꙋкѡве, або вербы, або розмѣшанѧ (Бяр., 233)

**Розмешати** *дзеясл* Змяшаць еще ти дамъ другое зѣлье хто бы его розмешавшы з вином хотѧ мало укусилъ, три дни не пробужаю сѧ будеть спал (Бава, 150), розмешавшы ѡдно зѣлье и намазала сѧ им и стала чорна (Там жа, 168)

**Розмиловатися, розмиловатисе** *дзеясл* 1. *Упадабаць, спадабаць (каго-, што-н.)* видь ꙗк приказанеи твоих розмиловалсѧ есми, гсп млсрдьем твоим живи ми (Пс XVI, 124б), исусъ рекъ емꙋ, розмилꙋешъсе пана бога твоего всимъ серцомъ твоимъ то есьть перъвое и большое приказанье А второе подобно ему, розмилуешъсе ближнего своего ѧкъ самъ себе (Цяп., 31б), Был теды нѣꙗкиѝ александер ꙋченик ѡригена, ѡног. розмиловавшисе хста наслѣдованем ꙋбожества, хотꙗчи се ѡт свѣта скрит, а волное серце ѡт всѣх роскошеѝ и добросвѣцких заховат, межи ꙋглꙗрѣ се ꙋдал (Бельск., 245б), Евглистъ Марко мовитъ, же взглѧнꙋвши на него Іс розмиловалсѧ его (Калист, II, 69), Сынꙋ, если хочешъ жебы *ти* новина ѡ смерти твоеѝ вдꙗчна была, подносии мысли твое ѡт речеѝ земных, а розмилꙋѝсе речы небесных, длꙗ которых еси ѡт бога сотворены (Зб 255, 350), мѣлъ есми в ненависти мысли здрадливые, а розмиловалсꙗ есми законꙋ твоего (Пс XVII, 140—140б), пришолъ Двдъ до Саꙋла и станꙋлъ предъ нимъ, а онъ се его велми розмиловалъ, и былъ оу него гермкомъ

(Хран., 218), шла за нею смутнаѧ трифениѧ, котораѩ се еи ўже была розмиловала (Зб. 82, 55).

**2.** *Пакахаць.* Вышла пакъ есть Дина дщера Лиина ... еѩ же ўз'рель Сихемъ сынъ Геморовъ ..., розмиловал'сѧ и ўхопилъ ю и спалъ с нею (Скар. КБ, 62б), король Марко розмиловалсѧ ее так силно, што нѣт на свете речы, чого бы длѧ нее не вчынил, толко бы ее по своеи воли мѣлъ (Трыст., 41—42), если ... ўзришъ в личбѣ по'маных женў надобнўю, а розмилуешсѩ еи, и будешъ ю хотѣл мѣть за женў (Біблія, 224), злаѩ жона розмиловаласѩ михаʼла злотничог ремесла ўродивог млоденца, и таемне цўжоложила з ним (Бельск., 378б), дўжи' Самъсонъ ѡбачилъ жонў филистинскўю, ѡбачивъши розмиловалъсе и взѩлъ ѡнўю за жонў (Зб. 259, 516); црь соломѡнъ розмиловалъсе женъ чўжаго родў многихъ (Хран., 299б), Крол саломон розмиловалсѩ невѣстъ (Выкл., 75), впал в сило жены ѡдной межи иерными, котораѧ се его ша iене розмиловавшы, зранила ўродою своею мысль его (Зб. 82, 246).

**Розминутися** *дзеясл.* **1.** *Разысціся, не сустрэўшыся.* Челеи Семеновичъ ... пошолъ есми къ Городну, зазвавши сутяжцу своего Левонца, ино есми розминулся зъ паномъ Зеленугою (АВК, XVII, 28, 1539).

**2.** *Разысціся пры сустрэчы, не закрануўшы адзін аднаго.* дороги звечные мают быти водле стародавного ѡбычаю такъ широки абы сѧ два возы фўрманъскихъ розминўти могли (Ст. 1566 I, 78б), Бово ... скочыл на конѧ и за стрымѧ сѧ не прынѧл и не розминул сѧ бы с тисѧчою витезеи (Бава, 153).

**Розмиренье** *наз. Вымярэнне, вылічэнне.* Дрўгие были мўдрцы влосские которых продок питакгорес ... то' се не ѡбирал ѡдно в личбѣ а розмиреню свѣта и в спѣваню (Бельск., 168).

**Розмирити** *дзеясл. Размеркаваць.* масть тое село Лагодовль князь Василей къ своимъ рукамъ держати и его вживати, люди садити розмирити и прибавити (АЮЗР, I, 82, 1531).

**Розмирица** *наз. Нязгода, парушэнне міру.* которые городы и волости и земли наши люди въ розмирицу поимали, и за то ли хотятъ съ нами валчити (АЗР, I, 260, 1501); также и въ нашой розмирици вжо съ тобою братомъ и сватомъ нашимъ, завжды были къ нашому господарству (АЗР, II, 83, 1511). *Параўн.* розмирье.

**Розмирье** *наз. Тое, што і* розмирица. только бы ему нѣколи зъ Нѣмцы розмирье было, и мнѣ великому князю Борису послати къ нему помочъ, по силѣ, безъ хитрости (АЗР, I, 66, 1449).

**Розмишлитисе** *гл* розмышлитися

**Розмнажати** *гл* розмножати

**Розмнажатися** *гл* розмножатися

**Розможанье** *наз* *Дзеянне па дзеясл* розмножати ў 1 *знач* вѣръте мнѣ, жэ не праца, не небезпечность и не иншые, которые сѧ на воине трафѧють, надзы або трудности не ѡдорвуть мене ѡт розъмноженѧ вашыхъ богатствъ, ѡт захованьѧ прыѩзни и помаганью товарышъства (Атыла, 219), зъ доброты и ласки нашое господарское, ку розмножанью вольностеи и свободъ шляхецкихъ, естесьмо хутливи и щодробливи (АВК, XIII, 61, 1590).

**Розмножати, розмнажати, розмножать** *дзеясл* 1. *Павялічваць (колькасць); пашыраць* азъ теже недостоиныи последовникъ их нароженыи в руском ѩзыку с помощию божиею, ѩко повиненъ сыи розмножати хвалу хрстьу и посполитое доброе (Скар ДП, 4б), которыми речами панство и богатства розмножали (Атыла, 228), розмножаючи зацность и старожитность дому его милости, яко черезъ руки зацные справы годные въ Речи посполитой отъ продковъ потомковъ суть поданы (АВК, XXXVI, 169, 1582), мы тедрь ѡбецѹемъ розмножати великое кнѩзство литовъское (Ст 1588, 70), Конста засѣвши столицѹ цесарскѹю блуд и еретицтво дѣла своег розмножал (Бельск., 342), коли во злым трываем и до грехов прикладаемъ тые поврозки розмнажаемъ с которых ставает се бичъ (Зб 255, 25); солодко мовы своеи частым казанемъ люд бжи поливат и ѡхоложат и спасене людское розмножат почал (Зб 82, 147б); Вѣрѹ стѹю розмнажали по Апстлах, стыи ѡтцеве, ѡсобливе на Соборахъ (Зб вып., 90б)

2. *Расплоджваць (павялічваць патомства)* будеть ѩко перъвеи радость имелъ естъ гдь богъ над вами чинѧи вамъ добре и розмножаѧ васъ (Скар ДЗ, 54б). тамъ было перших ѡных двое люде, которие розмножали народ людски (Зб 259, 56); подносит ѹбогие з недостатку и розмножает ихъ домы в великие народы (Пс XVII, 119б), неплоднѹю жонѹ плоднѹ чинит домъ еи дѣтками розмножает, и плодом еи ѹвеселѩет (Выкл., 144).

**Розмножатися, розмнажатися, розмножаться** *дзеясл.* 1. *Павялічвацца колькасна; пашырацца* хвала Пану Наивышому шырылася и розмножалася (АСД, I, 8, 1508), подъ часомъ розъмножалсѧ злыи обычаи (Скар ПБ, 22). Зновѹ по потопѹ розмножаетсе роспѹста (Бельск., 8), добра наши если их ѡхотне

ближним ѹзычаеш не гинут але се розмножают ꙗко много ѡлмѹжников таковых дознали того (Зб. 255, 236—24); кгвалътовныг сꙗ розмножает пломен (Зб. 259, 242б), всимъ людемъ и ꙗзыкѡмъ которіи мешкаютъ по всеи земли покои вамъ нехай се розмножает (Хран., 361б), ѡт тог часу почаласѧ щепити и розмножати вѣра хрестиꙗнскаѧ в царствѣ готском (Зб. 82, 28), абы цркôвъ стаѧ розмнажаласѧ, погане, Жидове, Еретики, и Сизматики навороч али сѧ (Зб. вып., 99)

2. *Расплоджвацца, павялічвацца (пра патомства)* сѣ народъ сынов' із'раилевыхъ многъ и креп'чее насъ естъ, поидите ж' мудре и сневолимъ их. Да не роз'множаютсѧ аще бо востанеть на насъ рать (Скар. КВ, 5б); Але вы ростѣте а розмножа'тесꙗ, а наполнꙗ'те землю (Бельск., 9б), над тыми реками немном и дѹбѹсою и юрою там се посадили, и почали сꙗ розмножат (Стрыйк., 514); кды сꙗ люде почали розмножати на земли, и зродили цорки (Выкл., 76—8)

**Розмножать** *гл.* розмножати

**Розмножаться** *гл.* розмножатися

**Розмножаючийся** *дзеепрым. ад* розмножатися ў 2 *знач.* Атална сказил Итаніѧ: Розмножаючисѧ, пом Замаг' або выховываючи, живѧчи (Бяр., 240)

**Розмножение** *гл.* розмноженье

**Розмноженый, розмноженный, розмножоный** *дзеепрым.* **1.** *Ад* розмножити ў 1 *знач.* потвержаем ему ... Давыдов городок ... со всими доходы ... которыи коли розумомъ албо мудростью человѣчю могут розмножены быти и росширены (Пін., 7, 1499), абы тутъ в месте Виленскомъ покои посполитыи розмножоныи былъ (АВК, XX, 177, 1601), Мнѡгого и великого в' насъ зла причиною бывает' грѣхъ. той бовѣмъ и дѹшѹ затрачаетъ, тогож ажъ назбыгъ розмнѡженаѧ злость, и тѣла частокротъ дотыкаетсѧ (Калист, 1, 53); такъ честь бга роспꙗтого по всемъ свѣте в спасению людском роз'множона и ширитсꙗ будетъ (Пралог, 624б), нехаи бѹдет розмножона моцъ гсднѧ ꙗкѡ присѧглесъ мовечи (Хран., 13б).

2. *Ад* розмножити ў 2 *знач.* абы люди наши там мешкаючи через рядъ добрыи а справедливыи были розмножены (СДГМ, 2, 1511), ѡт него хрстианъство боудеть розмножено а жидовъство боудет потлачено иже потом жадного црѧ ани кнѧзѧ никогда бѧше не боуджт мѣти (Сівіла, 4); ѹчинѣмо примире, абыс нам не чинилъ ничого злого, ꙗко и мы ничого есмо твоего не рѹшили анисмы ѹчинили, што бы тꙗ ѡбразило'

